

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 28 снежня 1990 г № 52 (3566) ● Цана 10 кап.



## НЕ ТУТЭЙШЫМІ— НАРОДАМ БЫЦЬ!

1991-ы.

Гляджу на тоўсты, яшчэ нечапаны стосік перакіднога календара на будучы год, бачу гэтую, яшчэ нязвыклую для вока дату, і нечакана прыгадваю іншую, вельмі падобную на яе па абрысах: 1961-ы. Тым годам я, нядаўні выпускнік журфака БДУ, прыйшоў у «ЛіМ». Значыць, будучы год для мяне — юбілейны: трыццаць гадоў у «ЛіМе». А самому «ЛіМу» праз год, у лютым 1992-га,—60. Выходзіць, з шасцідзесяці лімаўскіх гадоў апошнія трыццаць— і мае гады.

Розныя яны былі ў біяграфіі штотыднёвіка. Зведаў ён і ўзлёты (у 60-ыя гады, калі рэдактарам быў Н. Пашкевіч), і спады (у 70-ыя, калі яго ўзначальваў Хв. Жычка), і ажыўленне (з канца 70-ых—пачатку 80-ых, калі штотыднёвік рэдагавалі А. Асіпенка і А. Жук). Сапраўднае ж прызнанне чытачоў, вядомасць і аўтарытэтнасць (што засведчыў і няведамы раней рост тыражу) «ЛіМ» набыў з прыходам на пасаду галоўнага рэдактара А. Вярцінскага. Паспрыяла гэтаму, безумоўна, і тая акалічнасць, што ягоны прыход супаў з пачаткам перабудовы ў краіне, з пашырэннем галоснасці, дэмакратызацыі ўсіх бакоў нашага жыцця.

Ажывіліся, сталі больш надзённымі публіцыстычныя старонкі штотыднёвіка. «ЛіМ» ці не першым сярод рэспубліканскіх выданняў на поўны голас загаварыў пра ганебнае становішча роднай мовы, пра паўсюдную ліквідацыю беларускай школы, бядотны стан нашай культуры, разгул нацыянальнага нігілізму, а найперш — пра неабходнасць і непазбежнасць духоўнага адраджэння нашага народа.

Зварот да набалелых, вострых пытанняў грамадска-палітычнага і культурна-мастацкага жыцця Беларусі знайшоў водгук у чытачоў. У рэдакцыю пайшлі лісты. Яны займалі ўсё большую плошчу на старонках штотыднёвіка, давалі штуршок і накірунак пошукам супрацоўнікаў, падказвалі тэмы і праблемы, рабіліся грунтам новых цікавых публікацый...

Але — стоп! Здаецца, згадка пра 1961-ы завяла мяне не туды. Я ж зусім не хацеў займацца справаздачнасцю, ці спавядацца. А тым больш рапартаваць. Нават у гэтыя пераднавагоднія дні падстаў для бадзёрых рапартаў няма. «Наша планета не ў парадку»,—гаварыў Дзюрэнмат. Асабліва ж — наша краіна. Мала, вельмі мала ў ёй парадку. У Беларусі—таксама. Куды ні кінь—усюды клін. Крызіс ці не ўсеагульны. Найбольш балючы і небяспечны — крызіс духоўны. У наступ — адкрыты, несутрымны, нахабны—рушыў мешчанін, абывацель. Яго драпежныя, хамскія, лёкайскія законы святкуюць перамогу не толькі на рынках і барахолках. Абывацель, не сустракаючы належнага супраціўлення, сцвярджае свой дыктат і ў мастацтве, культуры. Ягоныя сцягі — пошласць, амаральнасць, распуста. «Дазволена ўсё, што не забаронена!»—крычыць ён. Аднак ці льга пераносіць гэта са сферы эканомікі, скажам, у сферу палітыкі, культуры, мастацтва, маралі, духоўнасці?

У нас жа, на Беларусі, усё гэта набывае асабліва пагрозлівы, нават трагічны характар, бо накладваецца на нулявы, можна сказаць, узровень нацыянальнай свядомасці. Праз засілле шматгадовай палітыкі «зліцця» і стварэння «новай гістарычнай супольнасці» з цяжкасцю прабіваюцца парасткі абуджэння.

Тым не менш, летаргія мінаецца. Нашы чытачы і аўтары адзінадушна пішуць, што сёння нам дадзены апошні шанц на выратаванне, на тое, каб пазбыцца нарэшце цэнзу тутэйшых і стаць народам, нацыяй. І ў гэтым кірунку—галоўны бальшак лімаўскіх клопатаў і турбот, што занатавана і ў рэгістрацыйным пасведчанні штотыднёвіка. Там, у графе «Мэты і задачы выдання», запісана: «Садзейнічанне нацыянальна - культурнаму адраджэнню, дэмакратычнаму абнауленню грамадства; асвятленне грамадска-палітычных і літаратурна - мастацкіх падзей рэспублікі». Дзеля гэтых мэт і задач «ЛіМ»—газета творчай інтэлігенцыі Беларусі, як будзе ў наступным годзе пазначана пры назве штотыднёвіка—будзе нястомна спрыяць таму, каб гуртаваліся і з'ядноўваліся ўсе здаровыя, канструктыўныя, жыццядайныя сілы грамадства.

Чытаю чарговую рэдакцыйную пошту. Аўтар аднаго з лістоў піша: «Цяжка беларусам вяртацца да сваіх каранёў, да бацькоўскіх вытокаў. Мне ў гэтым памог найперш «ЛіМ»... Такія чытацкія лісты падтрымліваюць наш творчы настрой і жаданне працаваць.

У новы год—з новымі надзеямі!

Мікола ГІЛЬ.

# У НОВЫ ГОД — З НОВЫМІ НАДЗЕЯМІ!



Васіль ВІТКА

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ГОД

Надыходзіць незвычайны год. Яго лічбавае напісанне чытаецца злева направа і справа налева. Можа, і мы самі ў нашым ашаломленым, затлумленым грамадстве выплішчымся, вылузаемся з неразбярыхі і ўпэўнімся, як нам лічыць, чытаць, пісаць, гаварыць, слухаць і разумець адзін аднаго, дый, нарэшце, з чаго пачынаць парадак і лад у жыцці з першага ж навагодняга дня.

Наша газета, пэўна ж, у ліку многіх іншых папрасіла і мяне сказаць некалькі слоў яе чытачам. Даўні чытач і зрэдку, гады ў рады — аўтар, мушу дадаць, што добрай сяброўскай зайздрасцю зайздрошчу яе рэдактарам, якім новы час, новая эпоха ўпершыню так прасвятлілі гістарычны далягляд, даўшы магчымасць уздыхнуць калі не зусім, не адразу на поўную грудзіну, то ўсё ж адчуць, што дыхаць сталася вальней.

Я не наладжваўся з першых слоў на падобны настрой, каб не вымушаў міжвольны ўспамін, што сорак год таму назад і я ж меў непасрэднае дачыненне да нашай газеты, быўшы цэлае дзесяцігоддзе яе рэдактарам. Прыгадваю яе калектыў: П. Панчанка, А. Бачыла, Б. Бур'ян, К. Губарэвіч, Я. Казека, Н. Кіслік, А. Кулакоўскі, В. Палтаран, Р. Шкраба, не называючы аўтараў — іх дзесяткі і сотні. Сіла, скажу вам, не малая. А што яна магла, калі не было аніякай грамадскай думкі? Поўнае і адзінае права на думку, да таго ж самую прымітыўную, на ўзроўні яе выразнікаў і заканадаўцаў, ведаеце, належала каму, якім цэнтрам і інстанцыям. Але да гонару асобных нашых неардынарных аўтараў на старонкі газеты ўсё ж прабіваліся то свежы навеў грамадскага настрою ў вершах Панчанкі, то іншы, чым кананізаваны абэцэдарска-бяздарскімі ярлыкамі, падыход да гістарычных ацэнак творчасці Алеся Гаруна або газеты «Наша Ніва». Кожнае новае слова, інакшы погляд, самастойная думка, вядома ж, не міналі пільнай увагі не толькі цэнзуры, але, галоўным чынам, ідэалагічнага дэпартаменту.

Па тагачаснай завядзёнцы, рэдактары газет з самага ранку ішлі не ў свае рэдакцыі, а ў прыёмныя сваіх ідэйных куратараў, дзе чакалі дырэктыў і ўказанняў, перадаючы іх адтэтуль па тэлефоне сваім падначаленым. Можа, таму, што наша газета не вызначалася аператыўнасцю, яе рэдактару неабавязкова было праціраць штаны ў саноўных прыёмных. Затое ў дні выхаду ўсю ноч і аж да раніцы мусіў ён сядзець у друкарні і, акрамя карэктараў і дзяжурнага, вычытваць кожны радок, а галоўнае і самае неспадзяванае, каб хто з наборшчыкаў або вярстальшчыкаў знянацку, сам таго баючыся, не пырнуў шылам у партрэт генералісімуса ва ўсёй яго параднай шыкоўнасці, без якога не абыходзіўся ніводзін нумар. Аднак не толькі вялікі страх перад мундзірам генералісімуса, але і не меншы і за кожнае слова, за кожны сказ у газеце не даваў спакою нашым высокаідэйным шэфам. Нездарма адразу ж па выхадзе ў свет, газета так пільна вычытвалася і добраахвотнымі аглядальнікамі, і ў прыёмных, і ў кабінетах. Бывала, уся спярэшчаная, пакрэсленая размашыстымі то чырвонымі, то сінімі алоўкамі, яна не раз выклікала «высокі» гнеў і абурэнне, пакуль, нарэшце, вашаму пакорнаму слузе, прыпомніўшы і спробу рэабілітаваць «Нашу Ніву» і творчасць Гаруна, не далі па шапцы, а ўсю рэдакцыю разагналі.

Зразумейце маю ўцеху цяпер, на парозе свайго васьмідзесяцігоддзя, чаму з такой цікавасцю я бяру ў рукі кожны нумар нашага штотыднёвіка. Яго новы рэдактар і большасць супрацоўнікаў і аўтараў па ўзросце мае дзеці і ўнукі. Але было б няпраўдай сказаць ім: «Здравствуй, племя, младое, незнакомое!» Ад усяе душы я радуюся, што племя гэтае даўно жаданае і доўгачаканае, пакліканае самой гісторыяй і няўхільнай логікай развіцця бурных падзей напрыканцы дваццатага веку.

Не будзем запабягаць далёка, неўзабаве, але ўжо ў новым тысячагоддзі зноў паўторыцца супадзенне гадавых лічбаў: 2002. Спадзяюся, што за наступныя адзінаццаць год у нашым новым грамадстве, у яго парламентах і асабліва ў беларускім, Бог дасць, паменшае «правых», а пабольшае «левых». Успомніце, якія бурныя страсці кіпелі ў заканадаўчых вярхах, дзе вырашалася не абы-што, а лёс самой зямлі — перадаць яе хоць частачку ва ўласнасць селяніну? О, як зашумелі, як загулі сучасныя феадалы: — ні на цалю, ні на корх не адступімся! «Владеть землей имеем право, а паразиты — никогда!» Аднак дарэчы спытацца: а хто ж «владел» болей сямідзесяці год? Прэтэндэнты на далейшую феадальную манаполію, адкінуўшы толькі што дэкляраваныя агульналюдскія каштоўнасці, зноў хапіліся за выратоўчыя класавыя фетышы, прыстрашыўшы ўсіх нас пагалоўным немінучым голадам. Але ж ні адно пакаленне беларускіх сялян за ўсю гісторыю наўрад ці помніць, каб чалавек, жывучы на зямлі, канаў з голаду. Не ўродзіць азіміна — выручыць ярына, падвядзе ярына — уратуе бульба. Ніколі гаспадар зямлі не ішоў з торбаю па людзях. Сама зямля не даравала б яму жабрацтва. І наш час няўмольна ідзе наканавай яму дарогай, не зважаючы на агрэсіўную актывізацыю ўсіх кансерватыўных сіл.

Думаецца, вельмі дакладна выбрала газета сваім дэвізам запавет незабыўнага Янкі Купалы: «Людзьмі звацца!», скіраваўшы яго на ідэю аднаўлення і адраджэння нацыянальнай годнасці народа, яго гістарычнай памяці, культурнай спадчыны, гуртавання творчай інтэлігенцыі вакол неадкладных жыццёвых клопатаў сучаснасці.

Не магу не зазначыць, на жаль, і няхай, магчыма, гэта будзе маё асабістае ўражанне, што падчас да прапаганды адраджэння нацыянальнай культуры залішне актыўна прылучаюцца энтузіясты — самі вельмі малой культуры, рэкламуючы сваю дзейнасць на прымітыўным саматужным узроўні, выдаючы ў якасці ўзораў народнага мастацтва імітацыйны сурагат і псеўдамастацтва. Падобных падробак, з-за якіх бывае да болю крыўдна і сорамна, не пазбаўлена наша эстрада і нярэдка нават тэлевізійны экран, паказваючы так званыя вечарыны, на якіх мусяць нас пацяшаць мае дарагія равеснікі — дзяды і прадзеды, бабкі і прабабкі. Вось якія ў сваёй большасці рэзервы самадзейнасці, што засталася ў многіх занядбаных і абязлюдзелых нашых вёсках. Адраджэнне — не вяртанне да ўзроўню аматарства, якім жыла яшчэ на маёй памяці вёска, ладзячы спектаклі: «Мікітаў лапаць» і «Пашыліся ў дурні» ў сялянскіх гумнах і свірнах, а гарадскія энтузіясты тэатра і музыкі ў самім Мінску цешыліся ўжо адным тым, што мелі «Беларускую хатку».

Беларусь як краіна заняла ўсё ж «свой пачэсны пасад між народамі», а па дзяржаўным статусе і годнае месца ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. І калі ўжо адраджацца, дык давайце прымервацца да скарбаў і вышынь, што здабыты нашымі, вядомымі свету, папярэднікамі.

«Літаратура і мастацтва», актыўна далучыўшыся да самых вострых і надзённых праблем часу, чым і набыла асаблівую цікавасць у чытацкай аўдыторыі, вядома ж, прыносіць у ахвяру свой непасрэдна прафесійны абавязак — болей глыбокі аналіз тых новых, складаных і супярэчных працэсаў, што адбываюцца ў сучаснай творчасці пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, у тэатральным і кінамастацтве. Вельмі прыкметнымі становяцца прыкрыя з'явы ў сучаснай мове і тым слоўным сурагаце, якім так актыўна карыстаюцца дзесяткі, сотні масавых выданняў разнастайных грамадскіх таварыстваў, аб'яднанняў, кааператываў, якія невядома адкуль цягнуць на свае старонкі даўно аджылую архаіку з чужой, неўласцівай беларускай мове лексікай і сінтаксічнай структурай. Такое ўражанне, што людзі, якія хапіліся пісаць па-беларуску, ніколі не чулі беларускага слова ў яго жывым гучанні.

Новы незвычайны год прыйшоў да нас з новым клопатам.

Няхай кожны прыме яго з асабістай адказнасцю.

Рупліва, па-гаспадарску.

# СЛОВА «ЧАРНОБЫЛЬ» ГУЧЫЦЬ У АМЕРЫЦЫ

**З прэс-канферэнцыі членаў беларускай дэлегацыі на 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН**

Шчыра кажучы, стаўленне да прэс-канферэнцый нашых міністраў было ў мяне досыць скептычнае: надакучылі казённыя, загадзя падрыхтаваныя пытанні і такія ж адказы. З гэткім пачуццём ішоў я і на прэс-канферэнцыю беларускай дэлегацыі на сесіі ААН. Але, дзякуй Богу, памыліўся — пачуў тут шмат цікавых думак, разваг, уразілі многія факты, якімі аперыравалі гаспадары прэс-канферэнцыі. А «гаспадарамі» былі, акрамя міністра замежных спраў БССР П. Краўчанкі, члены дэлегацыі: загадчыца лабараторыі Інстытута радыяцыйнай медыцыны, кандыдат медыцынскіх навук Н. Грэсь, пісьменнік А. Мальдзіс, намеснік генеральнага дырэктара знешнегандлёвай фірмы «Белаўтамаз» С. Селівончык, член калегіі МЗС В. Нікулін.

Што б я найперш адзначыў з усяго пачутага на прэс-канферэнцыі? А тое, што там, у далёкім Нью-Йорку, у штабе арганізацыі сусветнага супольніцтва ўпершыню на поўную сілу гучаў матыў чарнобыльскай трагедыі. Як расказаў П. Краўчанка, асноўным накірункам у рабоце беларускай дэлегацыі была распрацоўка праекта рэзалюцыі і цэлага шэрагу ідэй па міжнародным супрацоўніцтве ў справе ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай бяды. Можна ганарыцца тым, што Беларусь у сааўтарстве з іншымі 120-цю краінамі (са 159-ці членаў ААН) дамаглася прыняцця такой рэзалюцыі.

**«Нам удалося даказаць, — гаварыў міністр, — што Беларусь больш за іншых пацярпела ад Чарнобыля, і дамагчыся распрацоўкі спецыяльнай дапамогі рэспубліцы». П. Краўчанка расказаў, што прыняццю гэтага рашэння папярэднічала вялікая напружаная праца ўсёй дэлегацыі. Трэба ўлічваць неардынарнасць дзяржаў, якія ўваходзяць у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый, іх далёка неаднолькавае эканамічнае развіццё. У гэтым, відаць, можна шукаць тлумачэнне спачатку негатыўных адносін краін трэцяга свету да аказання дапамогі рэспублікам, пацярпеўшым ад чарнобыльскай аварыі. Многае тлумачыцца і тым, што ў некаторых краінах маюць вельмі цьмянае, прыблізнае ўяўленне аб памерах катастрофы, аб шкодзе, якую яна нанесла. Немалое ўражанне на ўдзельнікаў сесіі пакінула выступленне на ёй старшыні Савета Міністраў БССР В. Кебіча, які, у прыватнасці, першым сказаў, што ААН неабходна прыняць спецыяльную рэзалюцыю, у якой знайшоў бы адлюстраванне планетарны характар катастрофы ў Чарнобылі. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР М. Дзямянцей, які прыняў удзел у сусветнай сустрэчы на вышэйшым**

# ЁН І ЯНА—АДНА СЯМ'Я

**Адна з апошніх вечарын у Доме літаратара была крыху незвычайнай. Невыпадкова была абрана назва яе менавіта такая—«Яна і Ён». Яна—Людміла Рублеўская. Ён—Віктар Шніп. Жонка і муж. Два паэты. Толькі што выйшлі з друку іхнія новыя кнігі: «Адукацыя» — Л. Рублеўскай і «Горад Утопія»—В. Шніпа. Выдадзены яны ў незалежнай друкарні К. Пянткоўскага.**

**Адкрыў вечарыну па традыцыі адзін з кіраўнікоў СП Беларусі—намеснік старшыні Рады А. Пісьмянкоў. Далей жа традыцыя была парушана. Рэй вялі самі віноўнікі ўрачыстасці. А пра творчасць іх гаварылі Л. Галубовіч, Я. Гарадніцкі, У. Марук, М. Мятліцкі. З творамі - прысвячэннямі выступалі А. Сыс, М. Скобла, Э. Акулін.**

**Песні на словы Л. Рублеўскай і В. Шніпа выканалі барды І. Добры і У. Шніп. Прыйшлося даспадобы прысутным і выступленне артыста тэатра «Хрыстафор» С. Аляксандрава.**

**У заключэнне В. Шніп са сваім братам Уладзімірам выканалі сваю новую песню.**

**Адным словам, Ён і Яна— дружная творчая сям'я.**

**НАШ КАР.**

# Васіль Чумак і Максім Багдановіч

**У кіеўскім выдавецтве «Радянський письменник» выйшаў літаратурна - крытычны нарыс «Васіль Чумак». Падсумоўваючы творчы плён паэта, літаратуразнаўца Сцяпан Крыжаноўскі звяртаецца і да постаці нашага беларускага класіка Максіма Багдановіча. Даследчык, у прыватнасці, падкрэслівае: і Васіль Чумак, і Багдановіч блізкія сваімі грамадска-палітычнымі і літаратурна-эстэтычнымі поглядамі.**

**Застаецца дадаць, што С. Крыжаноўскі з'яўляецца і аўтарам успамінаў пра Янку Купалу. У свой час яны друкаваліся на Беларусі. Зараз жа ўвайшлі ў кнігу С. Крыжаноўскага, што пабачыла свет у Кіеве—«Мы пазнавалі непаўторны час».**

**А. КАРЛЮКЕВІЧ.**

**НОВЫЯ ВЫДАННІ**

# ЁСЦЬ І «ЮРЫДЫЧНАЯ ГАЗЕТА»...

**У сям'і беларускамоўных выданняў — папаўненне. Штотыднёвік Міністэрства юстыцыі БССР і Саюза юрыстаў Беларусі, які пачне рэгулярна выходзіць з наступнага года, атрымаў назву «Юрыдычная газета», а не «Юридическая газета». Праўда, мяркуецца яе выпускаць адначасова на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Як відаць з пробнага нумара, які прыйшоў да чытача (праз кіёскі «Саюздруку»), рэдакцыя мае намер захоўваць добрую прапорцыю.**

**Што тычыцца самога штотыднёвіка, дык, думаецца, ён паступова знойдзе свой твар. Прынамсі, у гэтым пробным нумары ёсць што прачытаць. Напрыклад, сам рэдактар газеты А. Валавой выступае з цікавым артыкулам «Мы, беларусы...», у якім расказвае, як няпроста ствараўся Гімн Беларускай ССР.**

**На будучае рэдакцыя мае намер змяшчаць і літаратурныя творы.**

# ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Вы трымаеце ў руках апошні сёлетні нумар «ЛіМа». Ён трошкі адметны ад папярэдніх. Ён перакідвае масток да нумароў штотыднёвіка, якія будуць пазначаны ўжо годам наступным. Разам з нашымі сталымі і новымі аўтарамі ў гэтым нумары прадстаўлены амаль усе вядучыя супрацоўнікі рэдакцыі—іх маналогам адпушчаны спецыяльныя калонкі. Тым самым вы, шаноўныя чытачы, не толькі пазнаёміцеся з намі непасрэдна, але і азірнецеся на мінулы лімаўскі год і кінеце позірк у год, які нам з вамі трэба будзе пражыць, спадзяёмся, у добрай згодзе і паразуменасці.**

**ПА СТАРОНКАХ ДРУКУ**

# ІЗНОЎ—НА БЕЛАРУСЬ...

**24 снежня ў «Правде» на чацвёртай паласе з анонсам на першай змешчана інфармацыя пад назвай «Дывізіён рушыў дадому». У згаданым анонсе гаворыцца: «У суботу горад Ражняву пакінуў артылерыйскі полк Іркуцка-Пінскай дывізіі, які накіраваўся да месца новай дыслакацыі ў Беларусі. Такім чынам, у адпаведнасці з другім этапам вываду савецкіх воінскіх часцей з ЧСФР на тэрыторыі Славацкай Рэспублікі не засталося ніводнага савецкага воінскага гарнізона».**

**Што ж, добра, што войскі выводзяцца, што ў Славакіі ўжо не засталося ніводнага савецкага воінскага гарнізона. Ды толькі — чаму адрас новай дыслакацыі артылерыйскага палка Беларусь? Колькі ўжо пісалася і гаварылася пра тое, што наша рэспубліка і без таго насычана войскамі, тымі ж ракетнымі базамі, як ніякая іншая, што жыхары Беларусі даўно сталі своеасаблівымі ядзернымі заложнікамі?**

**Інфармацыя ў «Правде» спараджае і іншыя думкі. У ёй бадзёра паведамляецца: «...З моманту падпісання савецка-чэхаславацкага міжурадавага пагаднення аб вывадзе савецкіх войск не прайшло і дзесяці месяцаў, а на тэрыторыі ЧСФР застаецца ўжо меней чым 20 тысяч нашых вайскоўцаў. Уся гэтая няпростая аперацыя, якая прадугледжвае па яе ходу вырашэнне складаных пытанняў матэрыяльнага і прававога характару, ажыццяўляецца, можна сказаць, імклівымі тэмпамі. Для параўнання: ...амерыканцы для вываду з Паўднёвай Карэі ўсяго толькі дзвюх дывізій маюць намер адпусціць... чатыры гады».**

**Ну, а ці добра гэта — такая спешка? Ці ёсць прычыны хваліцца гэтымі імклівымі тэмпамі? Дзе, у якім горадзе, гарадку ці паблізу якога паселішча ў Беларусі падрыхтавана, як належыць, месца новай дыслакацыі выведзенага апошнім на сённяшні дзень артылерыйскага палка? І ці падрыхтавана наогул?**

**Літаральна пару тыдняў назад па Беларускім тэлебачанні прайшла перадача аб тым, як размясцілася недзе пры шашы Мінск—Віцебск (назваць Лепель ці які-небудзь іншы населены пункт мы па-ранейшаму не асмельваемся, усё гуляем у захаванне ваеннай тайны) выведзеная раней ці не з той жа Чэхаславакіі іншая воінская часць. Глядзець тую перадачу было горка і балюча. Шкада было і людзей у пагонах (трапілі яны пасля «заграніцы» ў цяжкія ўмовы), і най-**

СУСТРЭЧА ТРЭЦЯЯ. Кватэра старшага навуковага супрацоўніка інстытута народнай гаспадаркі Івана **Вашкевіча** і ягонай жонкі Жанны Міхайлаўны, перакладчыцы газеты «Вячэрні Мінск». Аднапакаёўка ў суботні дзень сабрала ўсіх сваіх насельнікаў. Гаворка наша адбывалася ў прысутнасці дзвюх маленькіх дачок Вашкевічаў Марылькі і Янінкі. Можа, таму Іван і Жанна загаварылі адразу пра сваё, бацькоўскае, у сувязі з «ЛіМам».

**— Вось і «Чытанка» для дзіцячага садка выдадзена ў «Народнай асвеце» яшчэ на пачатку года. Склалі яе выдатна Вячорка, Маскаленка і Садоўскі, а ў «ЛіМе» водгукаў да гэтага часу няма. І пра беларускамоўныя дзіцячыя садкі вы мала пішаце... Газету чытаем даўно, але выпісалі на наступны год упершыню: падпісчыкам штотыднёвік будзе абыходзіцца танней. Што можна сказаць пра газету? Цяпер усіх хвалюе палітычнае жыццё. Вось і артыкул Пазняка пад назвай «Раскол» сёння прачыталі з цікавасцю. Амаль што не чытаем літаратурныя старонкі, у тым ліку і літаратуразнаўчыя артыкулы. Не падабаецца нам мастацкае афармленне газеты. І фотаздымкі ў вас нецікавыя, і шаснаццатай старонкі вы дагэтуль не знайшлі. Праўда, падабаюцца нам першыя палосы «ЛіМа», з якіх і пачынаем чытаць газету.**

Словам, не ўсё раўназначна ў газеце, лічыць сям'я Вашкевічаў. А трэба пры такой канкурэнцыі прэсы быць заўсёды на высокім узроўні. А яшчэ нашым новым падпісчыкам хацелася б на старонках «ЛіМа» бачыць рубрыку «З гісторыі беларускай мовы»...

ЧАЦВЕРТАЯ СУСТРЭЧА прыпаднесла нам сюрпрыз. Гаспадыня кватэры ўрач гарадскога псіханеўралагічнага дыспансера Валянціна Кірылаўна **Зімніцкая** ці не з парога паведаміла:

**— А яшчэ пяць экземпляраў «ЛіМа» мы выпісалі як навагоднія падарункі сябрам: два — у Мінск, два — у Вільнюс, адзін — у Рыгу. Гэта ж, лічу, самая прагрэсіўная газета ў рэспубліцы... Адлюстроўвае сітуацыю так, як яна ёсць. Імпануюць і публікацыі гістарычнай тэматыкі. Хацелася б, каб іх было больш, як, дарэчы, палемічных выступленняў па сацыяльна-палітычных пытаннях. З думкай апазіцыі трэба часцей знаёміць чытачоў. Паглядзіце, як паслядоўна прапагандуе сваю палітыку камуністычная партыя...**

Шчыра скажам, з'яўленне ў пакоі гаспадара было для нас таксама своеасаблівым сюрпрызам. Ім аказаўся Юрый **Хадыка**, вядомы ў рэспубліцы вучоны і грамадскі дзеяч. Цікава, што скажа ён?

**— На працягу года заўважыў сур'ёзныя публікацыі Сідарэвіча, Ласкова, Грыцкевіча, Ткачова, Акулава. Уразіла сіла пачуцця, з якой піша Анатоль Сідарэвіч, хоць з ім можна спрачацца. Ён у добрым сэнсе слова максіміліст, суб'ектывіст, а ўрэшце ў жыцці існуе толькі суб'ектыўнае ўспрыманне, якое і рухае прагрэс... Вядома, «ЛіМ» займае прагрэсіўныя пазіцыі, але пакуль яшчэ, вобразна кажучы, хісткія. Можа, ад гэтага і той налёт правінцыйнасці ў асвятленні пэўных праблем? Правінцыйнасць гэтая яшчэ і ў тым, што ў некаторых публікацыях ці не замнога стогну і ляманту. Больш патрабавальна адбірайце матэрыялы. Мне не хапае на лімаўскіх старонках і глыбокай пісьменніцкай філасофіі: мастацкая тэхніка нібыта ёсць, а вось філасофіі бракуе, на жаль. І яшчэ. Рэвалюцыйныя часы заўсёды выклікалі своеасаблівы ўздым мастацкай палітычнай карыкатуры. Растлумачце, чаму гэтым відам «публіцыстыкі» не карыстаецца «ЛіМ»? Апошняе, пра што хацелася б сказаць. Пра мастацтва пішаце мала і невыразна. А мастацкія карані ў нас глыбокія, традыцыі векавыя. Чаму ж мы такія сціплыя?**

Што ж, ёсць над чым падумаць...

СУСТРЭЛІ мы ў кватэрах па вуліцах Якуба Коласа і Усходняй і іншых нашых падпісчыкаў. **Сяргеева** Ірына, інжынер Белдзяржпраекта, 27 гадоў. Чытае, з яе слоў, штотыднёвік з захапленнем ужо тры гады, артыкулы грамадска-палітычнага зместу абмяркоўвае з калегамі на працы, далучае іх да газеты. Хоча таксама ведаць больш гісторыю Беларусі, турбуе яе і экалагічная праблематыка.

Былая выкладчыца Белдзяржуніверсітэта, філолаг Ірына Феліксаўна **Доўбік** паведаміла, што ўсе яе родныя — маці, сястра — кожны паасобку выпісваюць «ЛіМ». Сама яна з'яўляецца нашай падпісчыцай ужо пяць гадоў. Любіць чытаць паэзію, творы пісьменнікаў Скрыгана, Гілевіча, Панізніка, Міська. Хацела б яна больш ведаць пра рэпрэсіраваных пісьменнікаў, іх лёс.

«Ад радка да радка» чытае нашу газету студэнт журфака БДУ Андрэй **Паўлаў**. Цікавіцца гістарычнымі матэрыяламі і лічыць, што «ЛіМ» недастаткова ўвагі надае маладым творчым талентам. Можа, і больш сказаў бы нам Андрэй, але на гэты дзень прыпала братава вяселле, і ён спяшаўся.

Апошнімі нашымі субяседнікамі былі Вікторыя **Пыж** (25 год) і яе маці. Віка лічыць, што ўзровень «ЛіМа» даволі высокі, і ёй заўсёды цікава спазнаваць калізіі жыцця праз любімае выданне.

ДВА ПЕРАДАПОШНІЯ выхадныя дні года мы вялі гаворку «пра нашу і вашу газету», шаноўныя нашы падпісчыкі, сябры, дарадцы, а часам і апаненты. Асабліва нас узрадавала тое, што кантынгент лімаўскіх прыхільнікаў памаладзеў. Тое, што ўрокі жыцця, якія **«ЛіМ»** імкнецца асэнсаваць на сваіх старонках, не прайшлі, відаць, марна.

Да сустрэч у новым годзе, у якім мы вам зычым здароўя і... аптымізму!

**Напярэдадні Новага года**
**з чытачамі сустракаліся**
**Марыя ГІЛЕВІЧ,**
**Людміла КРУШЫНСКАЯ.**

●

ЧЫТАЧОМ «ЛіМа» з'яўляюся каля дзесяці гадоў. Але ж менавіта ў сённяшні час, насычаны мітуслівымі ды супярэчлівымі падзеямі, што адбываюцца ў нашай краіне, не магу ўявіць свайго існавання без гэтага па-сапраўднаму нацыянальнага выдання.

Уважліва сачу ў друку за артыкуламі, прысвечанымі музычнаму мастацтву. Прафесійныя разважанні на тэмы музыкі з'яўляюцца і на старонках «ЛіМа», але, на вялікі жаль, іх не так шмат. Прывяду словы вядомага венгерскага кампазітара Золтана Кодая: «Першым краевугольным каменем падсвядомага венгерскага пачуцця з'яўляецца мова, другім... — музыка». Што ж у нас? У нас — той гаротны стан, у якім апынулася родная мова, і тая феадальная палітыка па знішчэнні беларускай культуры, якая вялася дый вядзецца па сённяшні дзень. Безумоўна, усё гэта дало свае вынікі і ў блізкай для мяне галіне мастацтва: мізэрнасць інфармацыі па гісторыі старажытнай беларускай музыкі (якая існавала!); адсутнасць у рэспубліцы музычнага выдавецтва, а значыць і брак нацыянальных навукова-метадычных прац па музычным выхаванні дзяцей; абыякавасць моладзі да фальклору; пасрэдныя, за рэдкім выключэннем, прэм'еры сучаснай беларускай музыкі з напалову пустымі канцэртнымі заламі...

Музычная інтэлігенцыя Беларусі яшчэ спіць дрымотным сном, а калі прачынаецца, то яе, відаць, больш хвалююць матэрыяльныя праблемы замежных музыкантаў. Дык, можа быць, у наступным годзе на старонках «ЛіМа» загучаць галасы тутэйшых музыказнаўцаў: ці грамадзяне мы на сваёй зямлі?

Віншую чытачоў і супрацоўнікаў «ЛіМа» з навагоднімі святамі.

**Валерый ЖЫВАЛЕЎСКІ,**
**выкладчык Беларускай**
**дзяржаўнай кансерваторыі.**

●

НЕЯК ЯШЧЭ НА ПАЧАТКУ ПЕРАБУДОВЫ давялося мне змясціць у нашым афіцыёзе — «Вячэрнім Мінску» — невялікую нататку, і гэты сумны факт дагэтуль непакоіць маё грамадзянскае і аўтарскае сумленне. Думаю, сказанага дастаткова, каб ахарактарызаваць мае адносіны да «ЛіМа», яго грамадска-палітычнага і эстэтычнага крэда. Я яго не толькі пастаянны і зацікаўлены чытач, але і больш-менш пастаянны аўтар.

Неардынарнасць нашай будыніны, якую мы ўзводзілі амаль тры чвэрці стагоддзя, патрабавала і неардынарнага будаўнічага матэрыялу. Ленін, з уласцівымі яму шчырасцю і патрабавальнасцю да дакладнасці лагічных дэфініцый, назваў яго «чалавечым матэрыялам». Чалавек — гэта адзіны суб'ект, які валодае абсалютнай суверэннасцю — быў начыста выключаны з палітычнага жыцця, выконваючы вызначаную яму «самай перадавой і гуманнай грамадскай тэорыяй» ролю «матэрыялу гісторыі».

Цяпер сітуацыя мяняецца. Ідзе бурны працэс палітызацыі грамадства. І гэта не можа не радаваць. Палітызаванае грамадства з глыбокімі дэмакратычнымі традыцыямі і культурай — гэта грамадзянскае грамадства. Разам з тым, палітызаванае грамадства без палітычных традыцый і культуры — гэта охлас, натоўп. А што такое натоўп — мы добра ведаем па нашай уласнай трагічнай гісторыі. Мяне не проста турбуе, — палохае, як бы наша слабая яшчэ дэмакратыя не набыла пачварную форму натоўпакратыі. І тут я бачу сапраўды месіянскую ролю мастацтва і творчай інтэлігенцыі. Так, месіянскую, я не баюся гэтага слова. І зусім не ўспрымаю як гіпербалу словы Ф. М. Дастаеўскага: прыгажосць уратуе свет. Бо мастацтва абуджае ў чалавеку чалавека. Не магу ўявіць сабе мізантропа — пісьменніка, кампазітара, мастака.

Мне б вельмі хацелася, каб мой любімы «ЛіМ» — орган творчай інтэлігенцыі Беларусі — узяў пад сваю асаблівую апеку менавіта гэты бок перабудовачных працэсаў у рэспубліцы. У ім — гарантыя жыццяздольнасці нашай дэмакратыі. У ім — зарука нашага адраджэння.

**Валянцін АКУЛАЎ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар.**

●

ЯК І ШМАТ ХТО, я стаў пастаянна выпісваць і чытаць «ЛіМ» гадоў пяць таму. Газета і цяпер прыцягвае сваёй пэўнасцю, грунтоўнасцю, акрэсленай грамадскай пазіцыяй. Ведаю, што ў вас адбыліся ўнутрырэдакцыйныя змены, але прыемна адзначыць, што актуальныя тэмы не проста «ставяцца», «падымаюцца», але і аналізуюцца (чым можа пахваліцца не кожная газета). Праўда, так званы нефармальны друк («Навіны народнага фронту», «Свабода») бывае больш аператыўны. Аднак... Не падумайце толькі, што карпаратыўны інтарэс «заступіў» мне публіцыстычны напал «ЛіМа», аднак, мастацтва, у прыватнасці, тэатральнае, гады ў рады наведваецца на вашы старонкі; тое самае можна сказаць і пра мастацтва кіно...

**Віктар ЛЕСІН,**
**галоўны мастак Брэсцкага абласнога**
**драматычнага тэатра.**

●

ЗАДАЮЧЫ САБЕ ПЫТАННЕ: якую ролю іграе «ЛіМ» у грамадска-палітычным і духоўным жыцці рэспублікі, адразу ж на яго і адказваю: вельмі важную. Перш за ўсё, газета памагае не толькі захоўваць культуру народа, ягоную сутнасць, але і сумленна шукае ісціну. А ў пошуках ісціны не бывае гарантый, не бывае падстраховак.

Добра, што газета сваімі публікацыямі, усім сваім духам імкнецца рэанімаваць забытыя ў нас паняцці «сумленне», «годнасць», «гонар», забыццё якіх абярнулася для краіны катастрофай.

Заслуга «ЛіМа» і ў тым, што ён шмат піша пра нацыянальнае адраджэнне Беларусі, яе мовы і культуры.

У многіх матэрыялах газеты часта фігуруюць такія паняцці, як «патрыятызм» і «нацыяналізм». Той жа «нацыяналізм», які яшчэ зусім нядаўна характарызаваўся афіцыйнай ідэалогіяй негатыўна, сёння набывае новы сэнс, садзейнічаючы адраджэнню нацыянальных каштоўнасцей, барацьбе за нацыянальную дзяржаўнасць. Але мне хацелася б, каб «ЛіМ» даваў аб'ектыўную ацэнку і спробам надаць іншы сэнс гэтаму паняццю, бо ёсць і «нацыяналізм», які імкнецца вырашыць свае «праблемы» за кошт іншых народаў, скажам, анексіі іх тэрыторыі, перагляду дзяржаўных межаў і г. д. Якая ва ўсім гэтым тоіцца небяспека, мы ведаем з новай еўрапейскай гісторыі.

На маю думку, каб пазбегнуць гэтага, нам трэба ўзняцца над вузканацыянальнымі інтарэсамі, ладзіць свае адносіны з суседзямі. У гэтым сэнсе заслугоўвае ўхвалы стварэнне Балтыйска-Чарнаморскага Саюза, пра які «ЛіМ» не так даўно пісаў.

Я за тое, каб на старонках «Літаратуры і мастацтва» друкаваліся аўтары, незалежна ад іх перакананняў і поглядаў на з'явы, якія сёння існуюць у нашым грамадстве. Разам з тым, рэдакцыя, на маю думку, павінна патрабаваць ад сваіх аўтараў праверaных фактаў, пэўнай эрудыцыі і дасведчанасці ў праблемах, якія яны закранаюць. Тады б, відаць, у газеце не з'яўляліся матэрыялы, падобныя на артыкул кандыдата фізіка-матэматычных навук В. Сіўчыка, які ў мяне, спецыяліста-геадэмографа, выклікаў цэлы шэраг пярэчанняў.

Нехта сказаў, што пёры журналістаў страляюць далей за гарматы. Значыць, і тыя, хто «зараджае» тыя пёры, павінны заўсёды захоўваць свой порах сухім.

І, нарэшце, я жадаю, каб тыраж «ЛіМа» пастаянна рос.

**С. ПОЛЬСКІ,**
**прафесар Мінскага педагагічнага інстытута.**




КАЛОНКА ЛІМАЎЦА

# Я І ЗБІГНЕЎ БЖЭЗІНЬСКІ



...Калега вярнуўся з камандзіроўкі ў «глыбінку» і расказаў, што рэдактар раённай газеты адмовіў яму ў машыне. Маўляў, вы з «ЛіМа», а там працуе мой асабісты вораг — прагучала маё прозвішча — антыкамуніст.

Ці вось, днямі прыслаў чытач ліст, а ў ім — «ваша газета трымае антыкамуністычны і антысавецкі курс»...

Я і Збігнеў Бжэзіньскі? Альбо я — і хто там яшчэ, на каго наш агітпрап чапляў бірачкі «ярых антыкамуністаў» і «ястрабаў халоднай вайны»? Міжволі страціш душэўную раўнавагу, уведаўшы, што жыве дзесьці незнаёмы чалавек, для якога ты — крыніца адмоўных эмоцый! Хочацца выйсці на плошчу і ў роспачы выгукнуць: шаноўныя, я не магу быць «антыкамуністам», бо не ведаю, што такое «камунізм»!

Напрыклад, на Мінскім гадзіннікавым заводзе пад дэвізам «Сторонники коммунистического пути, объединяйтесь!» выходзіць газета «Мы и время». З гэткім раскілзаным «камунізмам» брыдка стасункавацца нават праз прыстаўку «анты». З іншага боку, мае ўяўленні аб плюралізме не настолькі бязмежныя, каб перадаць хоць бы дзесятую частку тых інвектыў, якія абрынуў на галовы бедных «бальшавікоў» таксіст, што ўчора падвозіў мяне дадому.

**Зрэшты, чым вінаваты я, беспартыйны журналіст, што сёння шматмільённая КПСС нагадвае хутчэй не партыю, а кангламерат розных палітычных плыней! Ёсць у ёй і манархісты, і «чорныя палкоўнікі», і сацыял-дэмакраты класічнай арыентацыі... Сабраныя пад адным «дахам», яны так і не дамовіліся (і ўжо, бадай, ніколі не дамовяцца), што ж сёння «камуністычнае», а што — не.**

**Вось чаму цяжка сур'ёзна ставіцца да кожнай чарговай эманацыі ўстрывожанага розуму нашых дамарослых «фундаменталістаў». Ну якія там «спробы пазбавіць» (варыянты — «ачарніць», «пасеяць сумненне ў правільнасці сацыялістычнага выбару» і г. д.)!! Каб скласці праўдзівае ўражанне пра святочнае ўбранне караля, нам няма патрэбы звяртацца да паслуг хлопчыка з андэрсенаўскай казкі. На гэтым фоне заклікі да кансалідацыі на грунце «вернасці ідэалам Кастрычніка» выглядаюць ці то фанатызмам, ці то няшчырасцю.**

Так, гісторыю не пераробіш. І, думаецца, менавіта ў яе незваротнасці — прычына той хваравітасці, з якой наша грамадства перажывае цяперашні сацыяльны катаклізм. Руйнуюцца догмы і паветраныя муры абстракцый, узведзеныя пакаленнямі «крамлёўскіх летуценнікаў», а камяні ляцяць — зусім не бутафорскія.

Адыходзіць у мінулае цэлая эпоха. Каб усвядоміць гэта, усім нам спатрэбіцца яшчэ шмат жыццёвых сіл, мужнасці і чалавечнасці. Усяго гэтага я і хачу пажадаць сваім чытачам. З Новым годам!

**Андрэй ГАНЧАРОЎ,**
**намеснік галоўнага рэдактара.**

КАЛОНКА ЛІМАЎЦА

## ЦІ ПАМЕНЕЛА ЛІТАРАТУРЫ?



«Літаратуру раблю я», — упэўнена заявіў адзін малады літаратар. І дадаў, каб зусім ужо не шакіраваць грамадскасць: «І час». Не ведаю, ці ўразіў ён шырокага ўсесаюзнага чытача (другой мэты, мабыць, не ставілася), але мяне асабіста схіліў да роздуму. Пра адпаведнасць дэкларацый зробленаму, пра тутэйшыя комплексы і ніцшэанскія замашкі, пра ўзаемасувязь творчага і чалавечага пачаткаў у чалавеку.

Апошнім часам ад пісьменнікаў можна пачуць, што ў «ЛіМе» стала меней **літаратуры.** Паколькі вершаў і апавяданняў на старонках не паменела, то, па ўсёй бачнасці, маецца на ўвазе крытыка і бібліяграфія. Сапраўды, «па віне» грамадска-палітычных зрухаў да крытыкі крыху астыла рэдакцыйнае начальства (а чытач мо ніколі і не гарэў). І нават крыўдлівы брат-пісьменнік усё радзей сам на сябе замаўляе рэцэнзіі, абмяжоўваючыся самаацэнкай і пачуццём годнасці. Адбываецца своеасаблівы крызіс жанру. Што рэцэнзіі ў іх класічным (ці акадэмічным) выглядзе не ствараюць уцямнай, адпаведнай рэальнасці карціны літаратурнага мацерыка, становіцца ясна ўсім. Просяцца нязбітыя жанры — эсэ, нататкі, агляды, відавочна не стае аналітычнага погляду на плыні і тэндэнцыі літаратурнага развіцця. Ад крытыкаў і літаратуразнаўцаў сёння чакаеш не толькі прафесійнасці, але і **асабовасці,** здольнасці да ўчынкаў, кажучы проста — звычайнай смеласці. Бо наперадзе шмат працы. Патрабуе новага погляду і прачытання ці не ўся беларуская літаратура савецкага перыяду, чакае асэнсавання літаратура сённяшняга. Тая ж яе частка, якую «раблю я», не пабачыўшы належнай рэакцыі, схіляецца да перабольшання свайго значэння ў сусвеце. Балючае адчуванне нядзейснасці часам вымушае ісці на бойку з ветракамі, часам задавальняецца «самаабслугоўваннем» у межах свайго пакалення ці таварыскага кола.

Ад «чыстай» крытыкі адбываецца адток у іншыя сферы, у палітычную, прынамсі. Уладзімір Калеснік, Уладзімір Казбярук, Яўген Лецка, Анатоль Сідарэвіч сёння востраць свае пёры не на мастацкіх творах, — грамадзянскае пачуццё кліча іх да змагання з каманднабюракратычнай сістэмай, з яе догмамі і міфамі. І ці можна іх за тое папракаць?

Азіраючыся на мінулы год, хачу згадаць імёны і іншых актыўных лімаўскіх аўтараў — Міхася Мушынскага і Аляксея Рагулю, Уладзіміра Конана і Алега Лойку, Тамару Чабан і Таісу Грамадчанку, Ігара Жука і Івана Штэйнера, Лідзію Савік і Алеся Бельскага, Сяргея Кавалёва і Алеся Бадака. Ёсць спадзяванне, што ў новым — бадлівым—годзе жаданне выказацца, паспрачацца адчуюць многія, што звычка да спакойнага канформнага жыцця пераможацца творчым гарэннем, што шырока будзе прадстаўлена на нашых палосах — Літаратура, якую ствараем мы.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**рэдактар аддзела крытыкі і бібліяграфіі.**

# На завяршэнне Скарынавага года

### ПРАГА

У Народнай бібліятэцы на пачатку снежня адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны, як гаворыцца ў запрашэнні, «500-ай гадавіне нараджэння Францішка Скарыны, беларускага вучонага-гуманіста, медыка, перакладчыка Бібліі, заснавальніка ўсходнеславянскага кнігадрукавання, які ў 1517—1519 гадах выдаў у Празе Біблію на сваёй роднай мове, а потым стаў першым садоўнікам у пражскім каралеўскім садзе».

Вечар адкрыў міністр асветы Чэшскай Рэспублікі прафесар Пётр Вопенка. З дакладам пра Францішка Скарыну і яго сувязі з Чэхіяй выступіла доктар Францішка Сокалава. Урыўкі з твораў Скарыны прачытаў Міраслаў Коваржык. Затым адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел ансамблі «Бізанцыён» і «Музыка паэтыка». Яны выканалі старажытную музыку, у тым ліку ўсходнеславянскую (Мікола Дылецкі).

Такім чынам, горад, у якім з'явіліся першыя беларускія кнігі, адзначыў памяць іх выдаўца.

### ВАРШАВА

Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Дом савецкай навукі і культуры ў Варшаве правялі літаратурна-музычны вечар, прысвечаны юбілею Францішка Скарыны. На ім выступілі драматург, аўтар сцэнарыя дакументальнага фільма пра беларускага першадрукара Алесь Петрашкевіч і пісьменнік, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс. У заключэнне адбыўся канцэрт беларускага фальклорнага калектыву з Беластока.

А. Петрашкевіч і А. Мальдзіс сустрэліся таксама з варшаўскімі беларусамі ў памяшканні сталічнага аддзела БГКТ. Адбылася цікавая гаворка пра Ф. Скарыну і яго традыцыі. Госці падаравалі гаспадарам новыя мінскія выданні.

### РЫГА

12—13 снежня 1990 г. у Рызе па ініцыятыве Латвійскага таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 500-годдзю з дня нараджэння вялікага беларускага асветніка і першадрукара Францішка Скарыны. У іх прынялі ўдзел і госці з Мінска і Вільні: пісьменнікі, вучоныя, мастакі, артысты.

У першы дзень у Музеі гісторыі медыцыны імя П. Страдыня адбылася навуковая канферэнцыя. Яе віталі прадстаўнікі латышскай навуковай грамадскасці. З дакладамі і паведамленнямі выступілі беларускія пісьменнікі і навукоўцы Я. Лецка, С. Панізнік, В. Чамярыцкі, мастак В. Целеш і інш. На другі дзень урачыстасці працягваліся ў Доме культуры прафсаюзаў, дзе адбыўся святочны вечар. Была наладжана выстаўка карцін мясцовага беларускага мастака Дзівіскібы, продаж навінак беларускай літаратуры і прэсы. Цёпла сустрэлі беларусы Латвіі выступленні вядомых артыстаў з Мінска Г. Дзягілевай, Т. Мархель, фальклорнага ансамбля «Купалінка». Мілагучная беларуская песня, жывое роднае слова, якія гучалі ў прыгожым бу-

# Да канца паслужыў Беларусі

Сёння, калі чытаеш і перачытваеш творы Уладзіміра Караткевіча, уключаныя ў першы яго збор твораў, калі знаёмішся з архівамі пісьменніка і яго эпісталярнай спадчынай, з гонарам радуешся, што так шматгранна раскрыўся яго талент, што так многа зрабіў ён для адраджэння Беларусі. І адначасова з горыччу і болем думаеш, як многа мог бы яшчэ зрабіць мастак, калі б жыццёвыя лёс і грамадскія абставіны былі больш спрыяльнымі для яго.

Як і яго папярэднікі Максім Гарэцкі і Кузьма Чорны, Уладзімір Караткевіч марыў аб стварэнні цыкла кніг пра жыццё свайго народа на працягу значнага прамежку часу, але, на вялікі жаль, не змог поўнасцю рэалізаваць сваю задуму.

Так, у лісце да свайго дзядзькі Мікалая Аляксандравіча Садавога ад 8 снежня 1957 года 27-гадовы Уладзімір Караткевіч пісаў:

**«А задум у мяне столькі, што калі б была свабода і калі б далі мне год шэсцьдзесят жыцця—напісаў бы сто тамоў. Далібог. Я іх магу нават прадаваць і не стану бяднейшым.**

**Вось бліжэйшыя задумы: кніга апавяданняў, раман пра 1905 год (які зараз пішу), сатырычная камедыя, 2—3 задумы паэм.**

**Пасля гэтага вазьмуся за «Сямейныя паданні роду Яноўскіх», цыкл невялікіх аповесцей памеру «Станцыйнага наглядчыка» (дай божа каб было хоць у сотую долю гэтай сілы) пра гісторыю беларускай шляхты. Аповесці будуць і пацешныя, і трагічныя, і хітрыя, і страшэнна-ўсялякія. Я ўжо раблю накіды і, пакуль што, цікава атрымліваецца.**

**А калі зраблю і гэта—засяду за «Век» — цэлую эпапею, у якую павінны ўвайсці паўтара дзесятка раманаў і якая ахопіць гісторыю Беларусі з 1860 года да нашых дзён.**

**Дай бог нашаму цяляці ваўка спаймаці». (Ліст напісаны па-руску, апошні прыведзены сказ —па-беларуску.—А. В.).**

У 104-й папцы хатняга архіва У. Караткевіча захоўваецца ліст паперы, дзе пісьменнік падае тыя кнігі, якія ён хацеў напісаць і якія маглі скласці 78 тамоў:

1—2 (тамы.—**А. В.**) Вершы.
3 Легенды.
4—5 Паэмы.
6 Раман у вершах.
7—8 Апавяданні.
9—10 Аповесці.
11—15 Раманы гістарычныя.
16—20 Раманы сучасныя.
21—35 Серыя «Век».
36—37 Казкі і літаратура для дзяцей—у стылі Г.-Х. Андэрсена.
38—39 Фантастычнае.
40—41 Запіскі фальклору.
42—45 П'есы.
46—47 Мемуары.
48—49 Шляхі (дарожныя нататкі).
50 Малая спадарожная кніжыца.
51—52 Крытыка.
53—56 Гісторыя беларускага мастацтва (архітэктура, жывапіс, музыка, скульптура).
59—61 Гісторыя Белай Русі.
62—64 Пераклады.
65—67 Ліставанне.
68—69 Пегас дыбкі («Пегас», «Пегас б'е задам», «Утаймаваны Пегас», «Перакітаіць кітайцаў»).
70 Гісторыя беларускай літаратуры.
71—72 Кінасцэнарыі, лібрэта.
73—75 Публіцыстыка. Навука.
76 Вы, беларусы (прызыў да іх вярнуцца).
77 Абарона мовы беларускай.
78 Кніга пра працу пісьменніка (тэорыя літаратуры).

У канцы пераліку ёсць прыпіска на рускай мове: «11 гадоў 75 дзён пры катаржнай нагрузцы».

Думаецца, прыведзены запіс зроблены хутчэй за ўсё ў 1957 годзе, бо на гэтым лісце ёсць назва ранняй п'есы Уладзіміра Караткевіча — «Млын на Сініх Вірах», твора, які быў закончаны ў красавіку 1957 года. Адзначым, што некаторыя іншыя рукапісы яго твораў, датаваныя тым жа часам, таксама напісаны пераважна на лістах са школьных ці агульных сшыткаў. Пазней пісьменнік

# НАРЭШЦЕ!

**Выйшаў беларускі адрыўны каляндар**

У продажу паявіўся доўгачаканы беларускі насценны (адрыўны) каляндар на 1991 год. Выпусціла яго выдавецтва «Беларусь». Гэтая кніжка на кожны дзень—аб усім і для ўсіх. Асабліва прыйдзецца даспадобы людзям сямейным, бацькам і дзецям. Тут мноства матэрыялу пад рубрыкамі «Зрабіце самі», «Бацькам аб дзецях», «Карысныя парады», «З біяграфіі слоў», «Пачытайце дзецям», «З беларускай кухні», «Юрыдычная даведка», «У садзе і агародзе». Ёсць тут і апісанні народных прыкметаў, па якіх можна самому скласці прагноз надвор'я. Пад рубрыкай «Кладоўка здароўя» прыводзяцца звесткі пра карысныя расліны і якасці культурных раслін і «дароў лесу» Беларусі. Шмат у календары і парад агародніку, рыбалову, грыбніку, іншых цікавых звестак.

Каляндар распавядае пра выданне беларускіх календароў, нашага іканапісу, дае кароткі «Летапіс нашага адраджэння», гаворыць пра паэтаў і пісьменнікаў, беларусаў і рускіх, якія жылі, вучыліся і працавалі ў Беларусі, згадвае іх вершы,




урыўкі з твораў. Нямала пададзена тут старажытных помнікаў архітэктуры, цікавых фактаў з жыцця краю, кароткіх біяграфій дзеячаў нашай навукі і культуры. Пад рубрыкай «З гісторыі Беларусі» надрукаваны матэрыялы аб асветніцкай дзейнасці многіх выдатных людзей нашага краю. Шмат этнаграфічных звестак, якія падаюцца пад рубрыкамі «Беларускі нацыянальны касцюм», «З народных абрадаў», «Беларускі сувенір», «Беларускія музычныя інструменты», «Народныя майстры», «Матэрыяльная культура Беларусі». Ёсць і своеасаблівыя «Каляндар імён», «Урокі мовы», падборка «Чаму мы так гаворым».

Рэдактары - складальнікі календара А. Законнікава і В. Балвановіч паклапаціліся, каб чытач атрымаў і пэўныя медыцынскія звесткі: рубрыкі «Парады касметолага», «Парады ўрача», «На пытанні адказвае сексолаг».

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# Спасціжэнне Буніна

Назву кнізе прафесара кафедры літаратуры Мінскага інстытута культуры Валерыя Няфёдава, выпушчанай выдавецтвам «Полымя», падказалі паэтычныя радкі аднаго з самых загадкавых пісьменнікаў так званага рускага замежжа:

**Будущим поэтам, для меня безвестным,**
**Бог оставит тайну—память обо мне:**
**Стану их мечтами, стану бестелесным,**
**Смерти недоступным—призраком чудесным...**

«Чудесный призрак»—удалая спроба спасцігнуць сутнасць мастакоўскага феномена І. Буніна, глянуць на яго, як на арыгінальнага творцу, адчуць, наколькі свет яго вобразаў з'яўляецца прыцягальным не толькі для ўсё новых пакаленняў чытачоў, а і для пісьменнікаў розных літаратур, паказаць, як традыцыі вялікага папярэдніка ўплываюць на іх кнігі, дапамагаюць ім глыбей спасцігаць рэчаіснасць.

В. Няфёдаў не ўпершыню звяртаецца да творчасці самабытнага майстра слова. У 1967 годзе ён абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Бунін-мастак (папярэднікі, сучаснікі, спадчыннікі)», а ў 1975 годзе выдаў кнігу «Паэзія Івана Буніна». І новая кніга — працяг даследавання і асэнсавання спадчыны пісьменніка, да якога ўжо звярталіся дзесяткі навукоўцаў у многіх краінах і якому пастаянна заставацца ў полі зроку ўсё новых і новых літаратуразнаўцаў.

Даследчык запыняе ўвагу на такіх значных бунінскіх творах, як «Справа карнета Елагіна», «Міцева каханне», «Жыццё Арсеньева», на «сялянскіх апавяданнях», напісаных у 1910-х гадах; гаворыць пра своеасаблівае мастакоўскае ўзаемадзеянне двух вялікіх майстроў — І. Буніна і М. Горкага; імкнецца па-новаму перагледзець ацэнкі, якія хоць і даўно ўсталяваліся, але, на думку аўтара, з'яўляюцца памылковымі і аднабаковымі.

Аўтар зыходзіць з перакананасці, што «Бунін апаэтызаваў яркія рысы рускага нацыянальнага генія, якія гарантуюць пазітыўнае развіццё чалавечых каштоўнасцей», і на гэтай аснове развівае сваю думку. І яму, бадай, удаецца паглыбіць даследчыцкае і чытацкае ўяўленне пра Буніна-мастака. Прынамсі, загадчык сектара літаратуры рускага замежжа Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага АН СССР А. Міхайлаў у прадмове дае кнізе надзвычай высокую ацэнку.

Хацелася б спыніцца на яшчэ адным аспекце даследавання В. Няфёдава. Аўтар не абмінае такога пытання, як Бунін і Беларусь, Бунін і беларуская літаратура... Дарэчы, наколькі Беларусь прысутнічае ў творчасці І. Буніна, падрабязна расказаў у артыкуле «Жыць тут вельмі прыемна...» А. Бабарэка («Нёман», 1980, № 6), на публікацыю якога спасылаецца і В. Няфёдаў, заўважаючы: «Беларусь увайшла ў яго свядомасць і як паэтычная легенда, і як рэальнасць, якую ён надзяляў з цягам часу ўсё больш вобразнымі формамі».

Ва ўступе ад аўтара В. Няфёдаў піша: «...спадчыну Буніна ўспрынялі беларускія майстры слова: І. Мележ, І. Шамякін, В. Быкаў, А. Адамовіч, Б. Сачанка, В. Зуёнак, Я. Брыль, Я. Скрыган, М. Лужанін, І. Навуменка, У. Караткевіч». Крыху ніжэй працягвае: «Аўтару гэтых радкоў гаварылі аб глыбокай павазе да класіка, натхнёна прыгадвалі яго вершы і прозу М. Танк, Т. Бондар, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, Х. Лялько».

Шкада толькі, што В. Няфёдаў, хутчэй за ўсё э-за абмежаванасці плошчы (выданне кнігі, дарэчы, ажыццёўлена на сродкі самога аўтара), не паклапаціўся, каб канкрэтызаваць гэтыя выказванні, паказаць на фактах, як І. Бунін «прысутнічае» ў сучаснай беларускай лі-






# ЯШЧЭ АДЗ

Стракатаю сарокай мільгануў год. Яшчэ мы не ведаем яго вартасці і не ведаем, з чым параўнаць. Але ўпэўнены — па сваіх падзеях ён адзін варты цэлага папярэдняга дзесяцігоддзя. Нават фотаздымкі — маленькія люстэркі былой рэчаіснасці — нясуць у сабе штосьці ад перамен і спадзяванняў. Шматколерны, неспакойны, рознагалосы, часам вельмі няўтульны, як чужая хата, — гэты год пачынаўся з бясснежнай зімы, такім захоўваецца цяпер у фотатэках і архівах усюдыісных рэпарцёраў, і гэткім будзе з'яўляцца на новых (ужо гістарычных) адбітках.

Мінулы год. Бачацца мітынговая сталічная плошча і прыцішаная вёска на малінавым золку. Ахоплены полымем лес і кропелькі расы на лугавой кветцы. Шчаслівая ўсмешка сытага дзіцяці і слязінкі несуцешнага чалавечага гора... Памятаецца самае эмацыянальнае, напружанае. Шматлінія дарогі, незлічоныя сустрэчы, нарысы і рэпартажы, звычайныя газетныя камандзіроўкі!... Але не дзеля таго, каб пакінуць для гісторыі — каб гісторыю засведчыць.

Мінуў год... У планетарным мысленні гэта азначае, што Зямля зрабіла свой чарговы









# ЗІН ВІТОК...



віток вакол Сонца. Гэта значыць, усё жывое існавала па сваіх адвечных законах... Гэтаксама і на нашай старажытнай, знявечанай Чарнобылем зямлі. Для некага сёлетні год стаў першым у жыцці, для кагосьці — апошнім. Ці проста прыбавіўся да пражытага. І нават у гэтым звычайным жыццёвым коле таксама хочацца знайсці адметнае, дагэтуль не кранутае. Адметнасць гэта аказалася ў адраджэнні, бо ўваскрашалі храмы, вярталася мова.

Калі рэдакцыя «ЛіМа» прапанавала падзяліцца здабыткамі года — зрабіць своеасаблівы агляд пройдзенага, я вырашыў прапанаваць фотаздымкі, якім не суджана было ўбачыць свет на старонках афіцыйнага друку. Амаль на ўсіх іх погляд не парадны, а як бы збоку. І жыццё без рэтушы.

Вядома, шмат да чаго не ўдалося дабегчы, дайсці, даехаць. Шмат планаў і задум не здзейснена, згубілася ў бясконцых хвастах чэргаў і неспакойным гуле пікетаў, у злосных закліках плакатаў, у эратычным буме. Але праз усё гэта льецца чысты гук Скарынавага слова, не забываецца падзея падзей — эпохі — 500-годдзе вялікага гуманіста.

Анатоль КЛЯШЧУК.















КАЛОНКА ЛІМАЎЦА

# ЖЫЦЦЁ СВАЁ ВОЗЬМЕ



Адыходзячы год дае *няшмат* падстаў для аптымізму. Калі параўноўваць тое, што адбываецца ў нашым грамадскім і культурным жыцці сёння, з «даперабудовачным» станам, дык нават напрошваецца параўнанне з рэвалюцыяй. Але калі браць за эталон сталыя дэмакратыі Еўропы і Амерыкі, дык давядзецца прызнаць, што ў нас усё яшчэ цягнецца «застой».

Дэкларацыя аб суверэнітэце БССР ніякім чынам не змяніла каланіяльнага статуса Беларусі. Закон, які нібыта гарантуе свабоднае развіццё беларускай мовы на беларускай зямлі, у вачах начальнікаў на ўсіх узроўнях улады — не болей чым аркуш паперы. Саюз фактычна не даў нам дагэтуль ні капейкі на рашэнне праблемы Чарнобыля, але менавіта немагчымасцю пераадолець наступствы чарнобыльскай катастрофы на нашай зямлі без дапамогі СССР палохаюць прыхільнікаў незалежнай Беларускай Рэспублікі.

Пры нашым каланіяльным стане нават духоўнае абуджэнне, зварот людзей да каштоўнасцяў хрысціянства ўяўляе пагрозу для Беларусі, бо праз касцёл ідзе паланізацыя, а праз царкву русіфікацыя.

**Атрымліваецца так, што стаць гаспадарамі свайго лёсу мы можам толькі заваяваўшы незалежнасць — але наблізіцца да незалежнасці можна толькі праз усведамленне, што наш лёс у нашых руках.**

Між тым па аналогіі з сённяшнім днём прыгадаю адзін амаль легендарны эпізод з біяграфіі пісьменніка Канстанціна Сіманава. У 1941 годзе, калі Чырвоная Армія несла мільённыя страты забітымі і палоннымі, калі, здавалася, нішто не зможа спыніць гітлераўскую армаду, пабачыўшы палаючыя фашыстоўскія танкі пад Магілёвам, пісьменнік увераваў у Перамогу, у тое, што вайна скончыцца ў Берліне. Менавіта ўвераваў. Як у Бога, як у цуд. *Некаторыя падзеі адыходзячага* года, на маю думку, могуць спрыяць амаль містычнай веры ў лепшую будучыню. Я асабіста прыгадваю 7 лістапада, тыя бел-чырвона-белыя сцягі, якія пераможна луналі над ачэпленым міліцыяй палатачным гарадком на пляцы Леніна ў час ваеннага параду.

**Мы ўжо не такія, як пяць гадоў назад. Гэта адчуваюць не толькі свядомыя беларусы, але і разумныя людзі за мяжою. Па меры таго, як накаляюцца страсці вакол так званага новага саюзнага дагавору, павышаецца палітычная вага Беларусі як рэспублікі, здольнай ці стварыць, ці разбурыць «крытычную масу», неабходную для ўтварэння новай імперыі. Тое, што на Беларусь глядзяць зараз іншымі вачамі, сведчаць і падзеі культурнага жыцця. Апошнім часам у Мінску ладзіліся выставы, якія раней згодна савецкай субардынацыі экспанаваліся б толькі ў Маскве ды Ленінградзе.**

**Падобныя з'явы ёсць у эканоміцы і палітычным жыцці Беларусі. Законы жыцця, здаровы сэнс уступаюць у канфлікт з жорсткай унітарнай структурай і дзікунскай «логікай» імперскага мыслення. Жыццё сваё возьме. А ўжо цаною якіх ахвяр гэта адбудзецца, залежыць ад розуму нацыі, ад нашага розуму.**

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ,**
**рэдактар аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў.**

**Шэрагам публікацый адыходзячага года «ЛіМ» закрануў праблемы міжканфесійных канфліктаў, якія, на жаль, робяцца адной з прыкмет нашага жыцця. Згадаем, напрыклад, артыкул А. Сідарэвіча «Забастоўка ў Вярэйках» (7 верасня), карэспандэнцыю І. Жарнасек «Хто крыўдзіць праваслаўных!» (14 снежня) і іншыя матэрыялы.**

**Нататкамі журналіста Ю. Лакаўца і лістом пісьменніка А. Мальдзіса мы вырашылі яшчэ раз звярнуцца да ўзнятай тэмы.**

# ПАДВОДНЫЯ КАМЯНІ

## Да гісторыі пытання

**Біспінгі — старажытны каталіцкі род, выхадцы з Вестфаліі і Курляндыі, вядомы на Беларусі з XV стагоддзя. Найбольш знакаміты з рода Ян Біспінг удзельнічаў у вайне 1812 года на баку французаў, за што і атрымаў чын палкоўніка.**

**Свечыны — старажытны праваслаўны род, вядомы ў Рускай радаводнай кнізе з XIV стагоддзя. Палкоўнік Аляксандр Свечын прымаў удзел у падаўленні паўстання 1831 года.**

**Гісторыя распарадзілася так, што генеалогіі гэтых старажытных родаў зліліся на Беларусі ў вёсцы Вярэйкі. Менавіта там, у спакоі і каханні працякала сямейнае жыццё праваслаўнага і каталічкі Свечыных (у дзявоцтве Біспінг). 13 лістапада 1838 года памёр Аляксандр Свечын, а гадоў праз 20, дакладна невядома, памерла і сама Біспінг-Свечына.**

**Выснову з іх жыцця можна зрабіць такую: любіце адно аднаго, а хто ты — праваслаўны ці каталік — не мае ніякага значэння. Можа, мы не ўспомнілі б пра гэтых людзей, калі б не храм, які яны пабудавалі ў Вярэйках.**

**ЗАКЛЮЧЭННЕ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР ПА УРЭГУЛЯВАННІ КАНФЛІКТУ АБ ПРЫНАЛЕЖНАСЦІ КУЛЬТАВАГА БУДЫНКА Ў В. ВЯРЭЙКІ ВАЎКАВЫСКАГА РАЁНА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ.**

**Культавым будынкам у в. Вярэйкі ў сілу гістарычных прычын у розныя часы карысталіся і праваслаўная і каталіцкая канфесіі. У апошнія трыццаць гадоў уладальнікам гэтага будынка быў саўгас «Ваўкавыскі», які выкарыстоўваў яго пад зернясховішча.**

**Канфліктная сітуацыя ўзнікла пасля таго як на пачатку 1989 года ў Ваўкавыскі райвыканком падалі заявы праваслаўныя і каталікі з хадайніцтвам аб рэгістрацыі іх рэлігійных таварыстваў на базе аднаго і таго ж малітоўнага будынка.**

**Камісія прыйшла да аднадушнай высновы, што для вырашэння пытання аб прыналежнасці будынка неабходна правесці даследаванне, для чаго стварыць спецыяльную групу з навукоўцаў В. Л. Вярэніча, С. А. Кузняцовай, У. У. Трацэўскага, якая ўвойдзе ў склад канфліктнай камісіі. У перыяд з 4 кастрычніка па 26 лістапада 1990 года яны правялі вялікую работу па вывучэнні архіўных і гістарычных матэрыялаў, якія датычацца культавага будынка, і зрабілі свае заключэнні.**

**Нягледзячы на незалежную адно ад другога працу, навукоўцы прыйшлі да аднадушнай высновы: у в. Вярэйкі ў 1826—1841 гг. быў закладзены і збудаваны каталіцкі касцёл.**

**ВЫСНОВЫ І ПРАПАНОВЫ**

**Камісія лічыць, што па праву канфесійнай прыналежнасці перавага на карыстанне культавым будынкам належыць вернікам каталіцкага веравызнання.**

**Камісія лічыць, што ўзнікненне і эскалацыя канфлікту паміж канфесіямі абумоўлена парушэннем заканадаўства аб свабодзе сумлення органамі дзяржаўнай улады вобласці, раёна і Ваўкавыскага сельскага Савета.**

**Камісія рэкамендуе Гродзенскаму аблвыканкому і Ваўкавыскаму райвыканкому прыняць рашэнне і дапамагчы будаўніцтву ў в. Вярэйкі праваслаўнай царквы, распрацоўцы праектнай дакументацыі, забеспячэнню будаўніцтва неабходнымі матэрыяламі. Пры неабходнасці выкарыстоўваць для гэтага магчымасці Беларускага Экзархата Маскоўскай Патрыярхіі.**

**Прагаласавала: «за» — 8, «не падпісала» — 3.**

ВОСЬ, быццам бы і ўсё. Вінаватых знайшлі, выхад з канфлікту намецілі, прагаласавалі. Але мне хочацца пагаварыць пра тое, што не ўвайшло ў дакумент — пра пазіцыю і паводзіны вернікаў.

На пасяджэнні камісіі (а іх было два) праваслаўныя ўносілі ў пакой асобны стол, каб не сядзець разам з каталікамі. Гэта, вядома, іх справа, але вельмі нязручна было весці дыялог, бо ўвесь час нехта аказваўся за спіной — ці каталікі, ці праваслаўныя. Такая форма гаворкі як бы адлюстроўвала пазіцыі абодвух бакоў і ў рэшце рэшт вызначыла колькасць галасоў пры падпісанні заключэння камісіі: «за» — члены камісіі і каталіцкі бок, «не падпісалі» — праваслаўныя. У цывілізаванай краіне, дзе першынствуе закон, трэба было б на гэтай справе паставіць кропку, якая і стаіць у канцы афіцыйнага дакумента, напісанага на бланку Вярхоўнага Савета БССР, але, як у нас прынята, атрымалася шматкроп'е...

Я не навукоўца і не палітык. Пра такіх у нас зараз іранічна ці са злосцю, у залежнасці ад апантанасці ўласнай ідэяй, пішуць: абстрактны гуманіст. А мне здаецца, гэта проста чалавек, які бачыць не ідэю, а людзей. У якога не галава баліць ад думак, а сэрца. Таму мне балюча было сядзець на гэтых камісіях і слухаць, як каталікі змагаюцца з праваслаўнымі на чале са святымі айцамі. Ці мала зямля наша пакутавала, ці не хапіла ёй Чарнобыля? Патрэбны яшчэ і рэлігійныя войны? Сорамна, спадары вернікі! Вы ж кожны дзень узносіце малітву да Бога: «...адпусці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым, і не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога». Ці гэта —толькі словы, якія не маюць месца на нашай грэшнай зямельцы?

Мяне заўсёды нібы як магнітам прыцягвала Біблія. Там я знаходзіў тое святло, якога не было ў жыцці. З душэўным трапятаннем уваходзіў у царкву (тады ў Мінску не было касцёла, ды мне было ўсё роўна — царква ці касцёл; я ведаў, што тут жыве Той, Хто Даў Людзям Любоў), і я з зайздрасцю глядзеў на бабулек, якія размаўлялі з Богам. Але, калі паства больш нагадвае раз'юшаную зграю, якую яшчэ больш распальваюць іх духоўныя правадыры, дык не трэба мне такой царквы і касцёла! Прабачце, што так рэзка, але гэта — шчыра.

На пасяджэнні я не адчуў імкнення зразумець адно аднаго, працягнуць руку. Не, стаялі, як кажуць, насмерць. Нават язык не паварочваецца паўтараць тое, што там гаварылася: сорамна.

Як ведаць, можа, не заключэнне камісіі трэба было падпісваць, а—«маленькую унію» паміж зацікаўленымі бакамі?

Для некаторых гэтыя разважанні гучаць вельмі наіўна: ну пра што ён гаворыць, якая вера, калі навокал скрозь палітыка?

Не, панове, вера ёсць, але яе трэба аддзяліць ад палітыкі.

У вярэйкаўскай справе ўсіх, нават самых высокапастаўленых святароў, перш за ўсё цікавілі дакументы: сапраўдныя яны ці не, на месцы стаіць коска ці не, правільна навукоўцы пераклалі нейкае слова ці не... І так бясконца. Таму што за ўсім гэтым хаваецца царкоўная палітыка. Між тым, дайшло ўжо да таго, што дзеці ў садку пачынаюць высвятляць нацыянальную прыналежнасць. Так міжканфесійны канфлікт цягне за сабой міжнацыянальны. Ці, можа, наадварот.

Дык вось, я лічу, што царква і касцёл павінны і на сябе таксама ўзяць адказнасць перад грамадствам за гэтыя падзеі. І зрабіць адпаведныя высновы. Таму што, на мой погляд, камісіі поўнасцю не ўдалося ліквідаваць канфлікт. Яна толькі прыгасіла яго, але гарачае вуголле ў глыбіні засталося... Пасля заканчэння работы камісіі ўпаўнаважаны па справах рэлігіі Савета Міністраў БССР Аляксей Іванавіч Жыльскі сказаў, што на яго думку былі нейкія падводныя камяні ў гэтай справе, якія так і засталіся ў ценю. Мне здаецца, што гэтыя таямнічыя падводныя камяні і былі асноўнай прычынай канфлікту. Яшчэ таму два гады народ у Вярэйках жыў дружна. У чым жа справа? Адно магу сказаць: зараз ні каталікі без праваслаўных ні праваслаўныя без каталікоў, за спінамі адзін аднаго нічога вырашыць не змогуць. Толькі разам, сумесна трэба шукаць той шлях, які вядзе да храма.

І яшчэ. Не абурайцеся на мяне, святыя айцы. Ведаю, вы хочаце сказаць, што масла ў агонь падлівалі і журналісты, і палітыкі, і Саветы. Але ж канфлікт разгарэўся не паміж газетамі ці паміж праваслаўнымі і каталікамі. Паміж вамі, шаноўныя.

Сёння мы зноў трапілі ў першы клас гісторыі грамадства: будзем зноў вучыцца жыць разам. Іншага не дадзена.

**Юрый ЛАКАВЕЦ,**
**журналіст.**

# СВЯТОЕ МЕСЦА— ДЛЯ ПАЯДНАННЯ

З вялікай трывогай прачытаў у «Літаратуры і мастацтве» матэрыялы пра рэлігійнае супрацьстаянне ў Полацку з-за Сафійскага сабора. Сітуацыя сапраўды складаная: будаваўся храм як праваслаўны, потым аднаўляўся з руінаў як уніяцкі, у апошнія часы перад закрыццём быў каталіцкім, а цяпер працуе як канцэртная зала з арганам, як адзін з лепшых і папулярных культурных асяродкаў...

То як цяпер дзяліць дарагую ўсім беларусам Сафійку? На тры-чатыры часткі? Праз канфлікты, галадоўкі, а, можа, і кроў? Не, Сафійскі сабор павінен быць не вогнішчам варожасці, а храмам паяднання ўсіх хрысціянскіх канфесій, усіх беларусаў, вернікаў і нявернікаў, увасабленнем нацыянальнага прымірэння. Нядаўна ў Нью-Йорку мне пашчасціла прысутнічаць на набажэнстве ў унітарным храме, дзе разам маліліся адзінаму Богу людзі вельмі далёкіх канфесій — хрысціяне і магаметане, іудзеі і будысты... То няўжо не могуць у Сафійцы знайсці агульную мову прадстаўнікі аднаго хрысціянскага веравызнання, якія маюць на яе бясспрэчныя правы?! Увесь хрысціянскі свет сёння ідзе да экуменічнага адзінства. На словах яно дэкларуецца і ў Беларусі. То ці не пара пацвердзіць гэтыя словы канкрэтнымі дзеяннямі? Як? Ды так, як робіцца пры такіх сітуацыях у іншых цывілізаваных краінах: набажэнствы служацца па чарзе (у залежнасці ад колькасці вернікаў адпаведнай канфесіі) ці пры розных алтарах.

А ў будні дні няхай у Сафійцы гучыць класічная музыка Баха і Чайкоўскага, Моцарта і Бартнянскага, Куліковіча і Равенскага, якой так не стае дзеля адраджэння той жа духоўнасці. Няхай людзі любуюцца дасканаласцю работы колішніх дойлідаў. Помнік нумар адзін у нашай нацыянальнай спадчыне павінен служыць усяму народу і мець адпаведны статус.

**Адам МАЛЬДЗІС.**



Сцэна са спектакля «Марк Шагал. Зыход».

# СВЯТА ТЭАТРА

**У лістападзе ў румынскім горадзе Ясы праводзілася міжнароднае Свята тэатра, прысвечанае 150-годдзю з дня заснавання першай нацыянальнай драматычнай трупы. На той самай сцэне, дзе Васіле Алесандры, пачынальнік румынскага тэатральнага мастацтва, паставіў першы ў краіне спектакль, выступілі румынскія, малдаўскія, венгерскі і беларускі калектывы. Паводле аднадушнага прызнання спецыялістаў, найбольшы поспех у гледачоў і тэатральных дзеячаў меў эксперыментальны спектакль, цалкам заснаваны на імправізацыях, — «Марк Шагал. Зыход», створаны «зборнай камандаю» з Мінска, у якой удзельнічалі як прафесійныя, так і непрафесійныя акцёры. Мастацкі кіраўнік пастаноўкі — Віталь Баркоўскі. Мастак — Уладзімір Матросаў. Артысты — Таццяна Мажар, Інеса Стругач, Анжэліна Тамбура (выхаванка малдаўскага тэатра, працуе на Беларусі), Алесь Асташонак, Мікалай Гаўдзінаў, Аляксандр Ільін, Уладзімір Матросаў, Мікалай Смірноў. Спектакль іграўся на пяці мовах — французскай, румынскай, беларускай, рускай, ідзіш.**

**Алесь ЖГІРОЎСКІ.**

КАЛОНКА ЛІМАЎЦА

# АЗАРЭННЕ



**Нешта здарылася неверагоднае, магчыма, не кожны мне паверыць. Напэўна, такое бывае толькі ў пераднавагоднюю ноч, калі хочацца, каб усё задуманае збывалася, няспраўджанае — спраўдзілася, а немагчымае зрабілася магчымым.**

**Азарэнне прыйшло адразу, як толькі была перагорнута апошняя старонка (не апошняга нумара) гадавой падшыўкі «ЛіМа». Я адчуў, што ў мяне прарэзаліся крылы, і я адарваўся ад зямлі, ад рэальнага турботнага жыцця, узляцеў адухоўлены толькі што згаданымі (чыталіся ж на працягу года) апавяданнямі, навеламі, абразкамі, урыўкамі з раманаў (урыўкаў з аповесцей аўтары як бы саромеюцца: раман — гэта гучыць класічна!), паэмамі, фрагментамі з іх, вершамі лірычнымі і публіцыстычнымі, філасофскімі вершаказамі, перакладамі з блізкіх і далёкіх моў, гумарэскамі і гумарынкамі (крупінкамі смеху).**

**Набраўшы вышыню, уявілася створанае майстрамі, і яно паўстала, як жывое, як і яны самі, выстраіўшыся ў калону па чатыры: празаікі, паэты, перакладчыкі, гумарысты. Так і хочацца запрашальна сказаць: «Усё лепшае — «ЛіМу».**

**Маю ўвагу прыцягнула незвычайная чарга: паважаная, інтэлігентная, справядлівая. Не крычала, не штурхалася. Не такая, як чэргі ля магазінаў — талонныя і бесталонныя. Усплылі радкі: «Серебряные головы и строки Достойно по редакциям носить». Асабліва падкрэсліў бы слова «серебряные», дзе там залатыя, хаця б ніжэйшай пробы; а пасля слова «достойно» ў значэнні па таленце, па заслугах. Незвычайнасць чаргі яшчэ і ў тым, што кожны перапоўнены прафесійным гонарам, выключнасцю сваёй асобы, сваім правам (нярэдка катэгарычным і неаспрэчным) неаднаразова выйсці на сустрэчу з чытачом, адрасаваўшы яму ўсё напісанае (відаць, па правілу — чым больш, тым лепш), тым самым далікатна адціснуць маладога аўтара, якому ніякавата стаяць у чарзе побач са знакамітымі і масцітымі. І тут я адчуў, што маё азарэнне змрачнее, слабеюць крылы, іду на прызямленне. Гравітацыя перамагла летуценне. А са старонак «ЛіМа» адгукнуліся жыццёвай плынню апавяданні, вершы, зачыны раманаў і паэм, перакладныя творы нашых сяброў і несяброў, чые радкі рабіліся для перастваральніка калі не сваімі, то роднымі. Як набалелае і пакутнае афарыстычна прагучалі радкі М. Танка «У нашых песнях — небяспечны стронцый». Перадало трывогу нашых дзён балючае запытанне П. Панчанкі: «Расійская імперыя, Савецкі наш Саюз, Калі ж ты скончыш песню Жабрацкую сваю?» Не пацішэлі галасы творцаў сярэдняга пакалення і маладых. Уразілі мяне радкі ленінградскага паэта пра пакуты творчасці:**

Нялёгка тое заўважаць,
што бачаць добра ўсе.
Яшчэ цяжэй пісаць аб тым,
што знаюць добра ўсе.
Ды сама цяжка даказаць,
што ўраз аслеплі ўсе.
Пачнуць тады ўсё прызнаваць...
але не ўсе, не ўсе!

**У перaадоленні такіх цяжкасцей, мне так думаецца, і будуць вызначацца тыя, каму дарагія лёс свайго народа, яго нацыянальна-культурнае адраджэнне, яго спрадвечнае імкненне «людзьмі звацца», заўсёды займаць «свой пачэсны пасад між народамі».**

Гады згараюць, бы ў агні
паленне.
І неба белізна бліжэй, бліжэй.
Зноў — да пяра,
штурхнула азарэнне:
А раптам гэта ён, той
верш-натхненне,
Які хоць каго-небудзь
зберажэ?

**З такой выратавальнай місіяй высокага Слова хочацца з надзеяй углядацца ў светлы дзень Новага года, помнячы пра тое, што «Солнце останавливали словом, Словом разрушали города», а «кніга ёсць кавалак неастылага сумлення, і больш нічога».**

**Такога б і нам усім!**

**Юрась СВІРКА,**
**рэдактар аддзела прозы і паэзіі.**

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

# НОВЫЯ старонкі



## Удава

Як на Галгофу цэлы год хаджу я ў гэту «люксавую» стадолу. Першая закройшчыца, паспеўшы толькі абмераць мяне з галавы да ног, адразу ж пайшла замуж... Другая — па мерцы першай — парэзала маё маючае быць паліто на кавалкі і нават сфастрыгавала іх. І таксама пакінула сваю пасаду — пайшла ў дэкрэтны водпуск... З бабскіх рук перадалі мяне на рукі, нават і надта пачцівага па ўзросту ўжо, маэстра. «З колішніх яшчэ майстроў!» — шэптам натхніла мяне сама дырэктарка атэлье. Але і маэстра пасля першай прымеркі з'ехаў. У Ізраіль.

І вось званок: «Запрашаем на прымерку».

...Вось тут, у гэтым «люксавым» бедламе, і стрэла я Раечку.

Як і заўсёды, міла, да твару апранутая. Як і заўсёды павольная, млявая. З веданнем справы мацае, камечыць у пальцах, зблізку і з адлеглласці разглядае развешаныя па стэндах тканіны.

Ведаю Раечку даўно, яшчэ малою. Бацька яе — актывіст з Урэчча — праводзіў некалі ў нашай Даманшчыне калектывізацыю. Няўтомны быў агітатар! Упартым, хто не з першага сходу пісаў заяву ў калгас, пагражаў усё Котласам і Салаўкамі. І каб жа толькі пагражаў...

Раечка — імя яе інакш ніяк не кладзецца на мову. (Як чэхаўская Д у ш а ч к а). Колькі ведаю, ужо і замужняй, калі ні стрэну — усё хварэе. Усё або лечыцца па бальніцах, або збіраецца ці толькі вярнулася з курортаў... Андрэйка — муж — уладкаваў малодшага сына ў МІМА, і яна пасля гэтага паляжала месяц у стацыянары ў лечкамісіі. А як сярэдняй дачцэ з зяцем Андрэйка выстараўся трохпакаёвую кватэрку ў Андатравым завулку (у іх саміх, на дваіх, чатырохпакаёвая ў «долары»...), то пасля наваселля, пасля такога небыту, яна адразу ж паехала адпачыць у Аксакаўшчыну (які там, праўда, адпачынак у тым лесе). Ну, а калі зяця — старэйшай дачкі — Андрэйка падапхнуў, падсобіў прабіцца ў намеснікі, адкуль недалёка ступіць, як і самому цесцю, у п е р ш ы я, то тады ўжо яны ўдваіх з Андрэйкам ездзілі адпачываць. У с в а і м санаторыі, з а к р ы т ы м. З нават пляжам абгароджаным. Каб не швэндаліся розныя. У Сочы.

Але ў Раечкі ўсё роўна ўсё жыццё няма здароўя.

— Раечка, ты чаго тут?!.

— Платьице к весне хочу выбрать.

— Дык чаму тут? У вас жа свая гаспода?

— Ах, не кажы! — Раечка з плачам прыпадае да майго плечука. І мяне міжвольна працінае сцюдзёная, нядобрая здагадка...

— Што здарылася, Раечка?

— Андрэйка мой...

У мяне не хапае адвагі спытаць, што з ім?

...Гэтым летам меліся яны ехаць у Карлавы Вары. Вырашылі, што ёй папярэдне не пашкодзіць паўтарыць лячэнне, паляжаць (дактары яе там ведаюць) у «Крамлёўцы». Каб потым, у тых самых Варах, ужо адпачываць, лішне не абцяжарваючы сябе лекамі. Яна і паехала ў «Крамлёўку»... А ён жа зроду нічым не хварэў. Ні разу нават у бальніцы не паляжаў, як іншыя вымяркоўваюць, каб ад работы адапхнуцца. Ён ніколі ні на што не пажаліўся (усё дрыжаў толькі за яе...) Такі мужчына! Зірнеш збоку — дуб! А які ўдачлівы быў... (І яго я ведала яшчэ з райкомаўскіх камсамольскіх сакратароў. У тым яго райкоме і Раечка пасля школы пратаколы розныя падшывала.) Здавалася, вакол яго ўсё гуло! І сам ад прыступкі да прыступкі толькі, п е р ш ы м уздымаўся да самай г а р ы... І на табе: як пярун сярод яснага неба... Перад нейкай там іхняй нарадай ці пасля яе (якая цяпер ёй розніца!) зрабілася раптам кепска. І ўсё! І Маскоўскія могілкі... Помніка яшчэ нават не паставілі. Але каму, апрача яе самое, у галаве той помнік?

...І вось яна — цяпер ужо ўдава — камечыць у пальцах то адну, то другую нейкія бабскія анучы.

— Платьице хочу к весне выбрать...

Госпадзі!

## Маліны

### З дачных анекдотаў

Хочаш насаліць суседу — пасадзі маліны на мяжы. Ужо яны то жыцця яму не дадуць!

З малін усё і пачалося.

— Суседка, я хутка сварыцца буду, — лагодна папярэдзіў Сусед Суседку, стоячы на мяжы і з задавальненнем назіраючы, як спрытна мільгае ў аголеных суседчыных руках матыка.

— За што гэта? — выпрасталася ладная, гнуткая ў стане Суседка. Умеру адкрыты купальнік умеру адкрываў і паказваў жаночае харaство: і поўных грудзей, і спраўных рук, і налітых звабнай сілай ног.

— За маліны. Вунь як забілі яны ўсю мяжу. І ўжо на мае грады лезуць.

— Мне мае маліны не замінаюць! — не пачула ці не пажадала пачуць у Суседавым голасе нешта цікавейшае за маліны Суседка. І, абыякава павярнуўшыся ружовай ад загару спіной да Суседавага надзелу, яшчэ з большым імпэтам налегла на матыку.

— Дык яны мне замінаюць! — абражаны гэтай гладкай ружовай спіной, узгарэў рахманы Сусед.

— То, можа, я павінна палоць нечыя грады? — не азіраючыся і не мяняючы паставы, здзекліва, з уласнае грады, азвалася Суседка. І залілася смехам, здаволеная.

Гэты нахабны смех, а яшчэ больш сама пастава дагэтуль нават і вельмі сімпатычнай яму Суседкі зусім раз'юшылі Суседа.

— Дык я!.. Я сякерай высеку ўсе твае маліны, да каліва! — не знайшоў ён іншай пагрозы, неўпрыкмет пераходзячы на «ты».

— Ха! Напалохаў! Сячы! — разагнулася Суседка і ляпнула сябе па голых укормленых сцёгнах.

— Сараматніца! Зірні на сябе! — на працiўны віск перайшоў Сусед, больш за ўсё абураны гэтымі голымі суседчынымі сцёгнамі. (Дзіўна — да гэтага моманту, неаднойчы, хоць і здалёку, ён назіраў за імі са здавальненнем...)

— А чаго мне глядзець на сябе? Ты, калі такі ўжо вялікі скаромнік, адвярніся і не пазірай на мяне!

Сусед плюнуў і схаваўся ў сваёй хаце.

Суседка зарагатала і таксама перайшла — на другую граду.

Назаўтра стаяла страшэнная спёка, збіралася на дождж. І Суседка стала пад душ. У суседзяў кругом вада грэлася на сонцы ў жалезных бочках. У яе ж быў прыстасаваны нейкі адмысловы сробрысты металёвы корпус, накшталт лётаючай талеркі. (Знаёмы аўтамеханік дагадзіў). Наталіўшы жаданай прахалодай цела і душу, Суседка выйшла з душавой, стала на мураўцы босымі нагамі, заплюшчыла вочы і распасцерла рукі. Аддала сваё здаровае прыгожае цела ўладзе гарачых сонечных промняў. Каб загарэць усёй, як любяць казаць у такіх выпадках жанчыны.

І ў гэты якраз момант выйшаў са свае хаты Сусед...

— Бессаромніца! Такіх пад суд аддаваць трэба. За парнаграфію! — лямантаваў Сусед, не зводзячы святых абражаных вачэй з Суседкі.

— Якая ж гэта парнаграфія? — смеючыся, нават не расплюшчыла вачэй Суседка, — калі некаму коле ў вочы, дык няхай чорныя акуляры купіць!

Прыгожая жанчына, яна ведала сабе цану.

. . . . . . . . . . . .

А недзе праз тыдзень пасля той «парнаграфіі» праўленне садова-агароднага таварыства разглядала скаргу Суседа. Яго Суседка, даводзілася ў скарзе, штодня гуляе ў сваім садзе-агародзе — у яго на вачах — распранутая, як Ева. Ісцец, кажучы мовай правасуддзя, патрабаваў належнага пакарання Адказчыцы.

Старшыня праўлення, упершыню за час свае садова-агароднай улады атрымаўшы такую скаргу, развёў рукамі:

— Як, таварышы, будзем рэагаваць на такую заяву?..

І тады, не чакаючы, каб яго апярэдзілі, устаў адзін з праўленцаў у тым садова-агародным таварыстве. Устаў, падкруціў чорнага вуса, прыжмурыў гарачае вока і, зірнуўшы на Адказчыцу, з такой прамовай звярнуўся да высокага суда:

— Калі ўжо такая склалася крытычная сітуацыя, таварышы, то я гатовы памагчы нашаму праўленню прыняць такое рашэнне, каб нікому не было кепска, каб ніхто не застаўся ў крыўдзе... З вашай агульнай згоды, таварышы, я даю сваю асабістую згоду памяняцца надзеламі з Істцом, так сказаць, аўтарам скаргі, якую мы тут сумесна з вамі разглядаем сёння... Няхай сабе ён перабіраецца на мой надзел, а я перабяруся на яго. У суседзі, так бы мовіць, да гэтае яго Евы...

Добра пасмяяўшыся, садова-агароднае праўленне аднагалосна ўзняло рукі за прапанову мудрага.

Не, адзін, праўда, устрымаўся: Ісцец.

А сама Ева? Яна ўзняла абедзве рукі.

## Парыжскія эцюды

### СЛІВЫ З ПАРЫЖА

Студэнтаў, як і штогод, на ўвесь верасень, адправілі на бульбу ў калгас. Першакурснікам, залічаным у студэнты і не працятым яшчэ скепсісам старэйшых курсаў, і бульба і калгас... на гэтым часе здаваліся мала што не ганаровай каранацыяй. Яны гатовыя былі не толькі выкапаць бульбу, у іх хапіла б імпэту пералапаціць і ўвесь калгасны палетак.

Размеркавалі ўсіх па хатах — каго па двое, а каго і больш, гледзячы, якая хата і якая гаспадыня.

Мой студэнт са сваім сябрам трапілі на кватэру да цёткі Марылі. Расказвалі потым, што раскашавалі яны там у яе, як у раі. Цётка Марыля і ранічкай, пакуль яны ўстануць, каб разам з усім сваім студэнцкім гуртам кіравацца на бульбу, нарыхтуе ім сняданак. І ўвечары — толькі пераступяць парог хаты, як на стале і міса гарачай, толькі адцэджанай бульбы, і збанок кіслага малака, і скаварада спечанага сала з яешняй...

Цётка Марыля жыла адна. І хоць была на пенсіі ўжо, але, дзякаваць Богу, мела яшчэ і сілу і дастатак. (Калгас таксама не гнуўся — добра падкідаў студэнтам харчу.) Дык і гэтых хлапчукоў, як яна іх звала, пыніла, я" сваіх.

Аднаго разу, у нядзелю, выкапаўшы вызначаную норму бульбы раней — раней і дадому з поля пайшлі (з дазволу, вядома, калгаснага брыгадзіра). Дадому? А чым не дом быў маім, напрыклад, у цёткі Марылі?.. А тая, прынядзеленая, сядзела на ганку, — балазе надвячорак стаяў сухі і цёплы — адпачывала. А каля яе стаяў кош сліў. Вялізны кош! Мой сын казаў, у нас, на Случчыне, ён такіх не бачыў... Не, плялі і ў нас вялізныя кашы. Часцей з вечкамі. І трымалі звычайна ў іх сушаныя на зімку сыры і каўбасы. Ад катоў. Або ссыпалі сушаную садавіну і вечкам — гэтакім жа плеценым, лазовым — усё роўна як на замочак маленечкі замыкалі. Наш дзядзька Мікалай умеў у такіх кашах прырабляць вельмі адмысловыя, хітрыя нейкі. зашчапачкі. Яны то не надта і патрэбныя былі: ад каго было замыкаць на ўласным гарышчы ўласныя каўбасы, ці сыры, ці сушаную садавіну? Але ж м а й с т э р с т в а, а р т ы с т ы з м, т а л е н т сялянскіх рук вымагалі такой гульні... Куды ўсё сплыло? Знікла? Спапялела?

Цяпер я не адважваюся казаць: у нас плятуць кашы... У нашай сённяшняй Даманшчыне, я не ведаю, колькі чалавек засталося, хто здольны сплесці кош на бульбу, на агуркі ці якую яшчэ вясковую буйную сыпучую — гаспадарчую патрэбу. Ужо не кажу пра кошык адмысловы — лазовы, гаркаваты, пахучы — ёмкі, зручны хадзіць у грыбы. Ці зусім маленечкі, як пёрка лёгенькі — малому дзіцяці на ягады...

Памірае, назаўсёды пакідае вёску яе штукарскае ўмельства. На вечны спачын неўпрыкмет кладуцца а п о ш н і я р у к і, што стварылі некалі па любай ахвоце столькі непаўторнага хараства і дабра на зямлі.

...Цётка Марыля, прынядзеленая, сядзіць на ганку побач з вялізным кашом сліў...

— Сядайце, мае хлопчыкі, ды ешце слівы, — узрадавана, нібыта яна сядзела і толькі іх чакала, кажа цётка Марыля. — Вельмі ж салодкія слівы. Як цукар!

Хлопчыкаў доўга ўпрошваць не трэба. Тут жа — адзін з аднаго боку, другі з другога — абселі цётчын кош — і пайшло дзела!

# «ПАШУКАЙЦЕ ЧАТЫРОХ КАМУНІСТАЎ...»

Сцяпана Барысавіча Купрэйчыка забіралі двойчы. Упершыню — у 1934-м, калі адмовіўся ісці ў калгас. Не адзін ён тады пацярпеў (сям'я жыла на Магілёўшчыне — у вёсцы Буда-Цялянская Асіповіцкага раёна): забралі ў НКУС роднага і стрыечнага братоў, пацярпелі і людзі з суседніх вёсак. Купрэйчыка, праўда, праз два гады выпусцілі. Крымінальная справа, па якой ён тады быў асуджаны, была спынена Вярхоўным судом БССР па пратэсту пракурора рэспублікі.

Вось толькі здарылася гэта... 26 верасня 1958 года. Праз дзень пра гэта паведамілі Сцепанідзе Рыгораўне Купрэйчык, жонцы незаконна асуджанага. Яшчэ праз дзень Вярхоўны суд рэспублікі С. Б. Купрэйчыка рэабілітаваў (хоць даведкі сям'я не мае і цяпер).

Звычайная гісторыя. Ну каго, скажыце, сёння гэтым здзівіш?

У 1937-м Купрэйчыка арыштавалі зноў. На гэты раз надоўга. След мужа, бацькі траіх дзяцей, праз нейкі час згубіўся. Малодшы сын бацьку ўжо не бачыў, таму што забралі галаву сям'і ў жніўні 1937-га, а нарадзіўся маленькі Эдзік у сакавіку 1938-га.

Недзе ў 1946-м, як і многія, пачалі пісаць па разных інстанцыях, спрабуючы знайсці месца знаходжання бацькі і мужа. Рознае адказвалі сям'і Купрэйчыкаў. Большай часткай раілі звярнуцца ў Вярхоўны суд, у Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, у пракуратуру вобласці, па месцы арышту. Але аднойчы прыйшоў больш-менш канкрэтны адказ. З Упраўлення выпраўленча-працоўных лагераў напісалі, што са станцыі Ярцава С. Б. Купрэйчык у 1943 годзе адбыў у рабочы пасёлак Савецкая Гавань Прыморскага краю.

Напісалі туды. Афіцыйная папера ў адказ сведчыла, што грамадзянін С. Б. Купрэйчык *памёр ад запалення* лёгкіх у 1943 годзе. А праз месяц атрымалі яшчэ адну паперу — пісьмо.

**«Добры дзень, мая дарагая сям'я, калі жывая і здаровая мая жоначка паважаная і дзеткі, якіх я ўжо і не ведаю. Ці жывая мая дарагая матуля, мая сястра, мой брат Ваня?**

**Паведамляю вам, што я жывы і здаровы, знаходжуся ад вас у 10 тысячах кіламетраў на дальлагу ДВ Д.В.К. Пісьмо вам я пішу пасля вайны — яно першае, бо перапіска нам забаронена. Гэта ж я перадаю з чалавекам, які адсюль вызваляецца і едзе дадому. Перадаю пісьмо яму, каб ён укінуў яго (сам ён з Алтайскага краю).**

**Дык вось, мая дарагая сям'я, цяпер я вам пішу падрабязна ўсё. Калі атрымаеце маё пісьмо, то не давайце яго нікому чытаць...»**

Жывы, значыць!

**«...Калі вы жывыя і не забыліся пра мяне, то пашкадуйце мяне, таму *што* адсюль можна вылезці. Чалавека, з якім перадаю пісьмо, выручыла жонка. Прашу і вас са слязьмі: не палічыцеся, выратуйце ад жахлівага жыцця. Пашукайце чатырох камуністаў (не ніжэй, чым з пяцігадовым стажам у партыі), каб яны ўзялі мяне на парукі. Там у вас блізка вайсковы гарадок, ёсць знаёмыя вайскоўцы. Лепш, калі нават будзе афіцэр.**

**А можа, дарагая Стэфачка, ты выйшла замуж, і я табе непатрэбны — хоць і не веру ў гэта, тады прашу сваіх дзяцей, каб яны пашкадавалі бацьку і папрасілі камуністаў, як веруючы просіць Бога. Працую ў лесе, работа вельмі цяжкая, а на правай руцэ няма двух пальцаў — указальнага і вялікага. Набыў сабе добрыя спецыяльнасці: я шафёр, кінамеханік і *першай рукі* фатограф, на ўсё маю пасведчанні. Але прашу вас не пакінуць маёй просьбы — калі ж знойдзеце каго, то паспяшайцеся да 1 красавіка. Пра гэта начальства мне сказала па сакрэту. І людзі адсюль ідуць пачкамі, але толькі на парукі камуністаў.**

**Мой адрас: дальлаг НКУС, г. Ніколаусурыйск, лагер 5, Купрэйчык. Перадаць начальніку лагпункта.**

**Цалую моцна ўсіх і чакаю ад вас свабоды. Ратуйце — іначай я тут застануся пажыццёва. І яшчэ: не лічыцеся з выдаткамі, бо грошы ў мяне ёсць, 59 тысяч рублёў. Паслаць іх нам нельга, а калі прыеду, то ўсё папоўню. Калі што і прадаць на мяне давядзецца, то адкупім. Прыеду не з пустымі рукамі, ды і рэчы ёсць добрыя. Прашу, дарагая жоначка, браты, сёстры, дзеці мае, маці: пашукайце камуністаў...»**

Дзеці малыя, маці — калгасніца. Сунуліся туды-сюды — безвынікова. Пісаць куды-небудзь проста спалохаліся: невядома яшчэ, што з гэтага атрымаецца, каб горш не было. Толькі пасля смерці Сталіна паслалі першы запыт. З Упраўлення выпраўленча-працоўных лагераў *паведамілі, што* «Купрэйчык Сцяпан Барысавіч, 1910 года нараджэння, адбываючы меру пакарання ў выпраўленча-працоўных лагерах Хабараўскага краю, памёр 18 лістапада 1943 года.»

Цяжка мець на руках пісьмо ад чалавека і чытаць адусюль сухія адказы пра тое, што ён памёр. У 1958-м, нагадаю, паведамілі аб рэабілітацыі С. Б. Купрэйчыка, але ж пасля першага арышту! Заявы жонкі, амаль дарослых к таму часу дзяцей перасылаліся з адной інстанцыі ў другую: пракуратуры, суды, выканкомы, органы ўнутраных спраў гулялі ў нейкую дзіўную гульню.

Малодшы сын — Эдуард Сцяпанавіч — пісаў прыкладна да 1962 года. Надзеі не губляў, *нягледзячы на* стэрэатыпныя адказы. Нарэшце стала зразумела, што шанцаў практычна няма: неабходна было ўлічваць узрост бацькі, умовы ўтрымання зняволеных у лагерах. Сваякі, блізкія ўсё часцей гаварылі аб тым, што Сцяпан Барысавіч, пэўна, памёр.

— А летась,— расказвае Эдуард Сцяпанавіч,— быў у старэйшай сястры (яна так *і жыве ў Асіповіцкім раёне*), яна параіла напісаць куды-небудзь яшчэ: можа, магіла знойдзецца? А і праўда, раптам хто што ведае з тых, хто там разам з ім тэрмін адбываў і вызваліўся? Хоць бы месца паказалі — самалётам паляцелі б туды, на Далёкі Усход.

Прачытаў Эдуард Сцяпанавіч аб стварэнні на Маладзечаншчыне камісіі па рэабілітацыі, звярнуўся туды па дапамогу. Падключыўся Маладзечанскі аддзел УКДБ, але канцоў адшукаць, як кажуць, не ўдалося.

— Мы хацелі б знайсці хоць бы месца пахавання бацькі,— працягвае Эдуард Сцяпанавіч. — Хоць бы помнік які паставілі. Ці грошы ўнеслі б на агульны мемарыял, абеліск. Ды і другое крыўдна: многія газеты змяшчаюць *на сваіх старонках* спісы загінуўшых у сваім раёне, горадзе. У бацькі ж, па сутнасці, нават добрага імя няма. Адзіная памяць — гэта пісьмо, ягонай рукой напісанае. Ведаць бы, дзе ён памёр... Чалавек жа жыве гэтулькі, колькі помняць пра яго, колькі на магілу ходзяць...

З 1957 года Эдуард Сцяпанавіч жыве ў Маладзечне. Пасля службы ў арміі трыццаць гадоў працуе ў будаўнічым трэсце №5. Увесь гэты час рабіў нейкія спробы, каб знайсці хоць нейкія звесткі пра бацьку. Але не будзе, на жаль, добрага канца ў гэтай гісторыі — *мінуўшчына добра ўмее захоўваць свае тайны.* Асабліва, калі самі людзі гэтаму дапамагаюць.

**«...Вышук я атрымаў ад вас, але не маю права нічога паведамляць. Усё гэта робіцца толькі нелегальна, па блату. Як я хачу бачыць сваю родную сям'ю і сваіх дзетак. У вёсцы звестак пра мяне не распаўсюджвайце, вядзіце справу толькі з камуністамі. Але яшчэ раз прашу: вядзіце справу з ваеннымі, так больш будзе карысці для мяне.**

**Калі даб'ецеся якога-небудзь дакумента, то пашліце каштоўным пісьмом на зацвярджэнне ў Маскву, у Міністэрства.**

**Яшчэ раз прашу, родныя мае, каб памаглі мне выйсці адсюль. Але толькі прасіце камуністаў-афіцэраў. І тайна, каб вёска ведала менш...»**

**Д. ХАРЫТОНАЎ.**

г. Маладзечна.

## *Прощание Славянки*

Павлу Ивановичу ПРУДНИКОВУ

**Было раннее утро прохладное,**
**эшелон уходил на восток, —**
**и раскинулась даль неоглядная,**
**а маршрут и суров, и далёк.**

**И беда покатилась дорогою,**
**потухали вдали огоньки.**
**Только рельсы звенели тревогою,**
**да мелькали охраны штыки.**

**А решетки вагонов столыпинских**
**даже души собой оплели.**
**Были лица в ту пору безликими,**
**а другими и быть не могли...**

**Поработали «черные вороны»:**
**стало в камерах тесно «врагам», —**
**и вагоны в далёкую сторону**
**повезли их к другим берегам.**

**Обрывались минуты венчальные**
**и дрожал каждый звук навесу,**
**а мелодия марша прощального**
**на ходу вышибала слезу.**

**Уходили на фронт и в изгнание**
**наши деды, отцы и друзья...**
**Этот марш, эту боль и страдания**
**никогда забывать нам нельзя.**

**Прощай, край родной,**
**они — всегда с тобой:**
**кто в Магадане,**
**кто в Казахстане,**
***кто под знаменами шел в бой...***

**Пётр КОСТЮКЕВИЧ.**

г. Петрозаводск.




**З 31 снежня па 6 студзеня 1991 года**

**31 снежня. 10.50**

**«ЧАША НЕАДПІТАЯ».**

**Перадача прысвечана жыццю і творчасці М. К. і А. І. Рэрыхаў. Гледачы пазнаёмяцца з іх разважаннямі аб месцы і ролі мастацтва ў духоўным узбагачэнні чалавека.**

**31 снежня. 17.45**

**«ТАЛЕНТЫ І ПАКЛОННІКІ».**

**Сустрэча з М. Міхалковым, Л. Дуравым, Б. Хмяльніцкім і іншымі артыстамі, рэжысёрамі, дзеячамі мастацтва — удзельнікамі кінафестывалю «Сузор'е-90».**

**31 снежня. 19.25**

**«ЗАПРАШАЕМ НА ВЯЧОРКІ».**

**Выступаюць фальклорныя ансамблі вёсак Дуброва і Астражанка Лельчыцкага раёна.**

**31 снежня. 22.50**

**«АКАДЭМІЯ СКАМАРОХАЎ».**

**Навагодняя забаўляльная праграма.**

**4 студзеня. 19.25**

**ПАКАЗВАЕ БРЭСТ. «БУГ».**

**Літаратурна-мастацкі часопіс прапануе сустрэчы з сям'ёй народных майстроў Яўгенам і Галінай Саламянкамі з Баранавіч, юным паэтам Максімам Шчурам з Брэста, пчаляром з Пружаншчыны Міколам Папокам.**

**4 студзеня. 20.20**

**ГАВОРЫМ ПА-БЕЛАРУСКУ.**

**Урокі А. М. Белакоза. Заняткі адбудуцца ў музеі льну.**

**4 студзеня. 21.45, 5 студзеня. 21.50**

**Прэм'ера чатырохсерыйнага мастацкага фільма БТ паводле аднайменнага рамана Э. Ажэшкі «Хам».**

**Аўтар сцэнарыя А. Зайцаў, рэжысёр-*пастаноўшчык* Д. Зайцаў, рэжысёр С. Шульга, аператар У. Спорышкаў.**

**Галоўныя ролі выконваюць Ханна Дупоўска і Генадзь Шкуратаў.**

**5 студзеня. 14.20**

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ!».**

**6 студзеня. 16.40**
**СВЯТА Ф. СКАРЫНЫ Ў ТАЛІНЕ.**






**«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.**

**Літаратура і Мастацтва**

**Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

**Індэкс 63856** П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**ТЭЛЕФОНЫ:** *прыёмная рэдакцыі* — 33-24-61; *намеснік галоўнага рэдактара* — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: *Святлана* БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; *аддзел тэатра, кіно і тэлебачання:* Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**